


Рэгіянальная газета

5 красавіка 2013 года
№ 14 (936)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".



**навіны рэгіёна**

## Маладзечанец стаў чэмпіёнам Беларусі

**ВАЛОЖЫН.** Сёлетні чэмпіянат Беларусі па гіравым спорце прымаў Валожын. Спаборніцтвы прайшлі на выхадных, 30 і 31 сакавіка. У вагавай катэгорыі да 90 кілаграмаў пераможцам стаў прадстаўнік Маладзечна **Віктар Шарамет**. Ён трэніруецца ў маладзечанскай спартыўнай школе №3 у **Сяргея Хмялька**. Спартсмен стаў чэмпіёнам краіны.

## У Мядзеле пакажуць карціны мастака з Вілейкі

**МЯДЗЕЛ.** У Музеі народнай славы 5 красавіка, у пятніцу, адкрываецца выстава мастака з Вілейкі **Эдуарда Мацюшонка** "Адна зямля". На ёй прадстаўленыя 23 працы мастака. У адкрыцці выставы плануе прыняць удзел аўтар работ. Сустрэча з мастаком прызначаная на 16 гадзін 5 красавіка. У Мядзеле праходзіла ўжо персанальная выстава Эдуарда Мацюшонка – у 2005 годзе.

## "Фэст экскурсаводаў" пройдзе ў Маладзечне і Астраўцы

**РЭГІЁН.** Экскурсіі ў межах праекта пройдуць у Маладзечне і Астраўцы, але ў іншыя мясцінах таксама могуць паспець арганізаваць іх. 20 і 21 красавіка ў любым кутку Беларусі могуць адбыцца бясплатныя пешаходныя экскурсіі. Для гэтага трэба прапанаваць сваю тэму экскурсіі арганізатарам для любога горада ці мястэчка Беларусі. Адначасова ў краіне іх пройдуць дзясяткі, паведамляе адзін з арганізатараў **Цімох Акудовіч.** Арганізатары "Фэсту экскурсаводаў" ладзяць такую акцыю ў пяты раз. Іх мэта – прыцягнуць увагу да мясцовых цікавых аб'ектаў. Сваю прапанову экскурсіі можна дасылаць на электронную пошту: **fest@icomos.by**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ашмянскія мытнікі канфіскавалі аўтазапчасткі

**АСТРАВЕЦ.** На мяжы з Літвой на Астравеччыне ў пункце пропуску "Гудагай-1" пры даглядзе цягніка "Калінінград-Санкт-Пецярбург" памежнікі знайшлі і забралі 52 аўтазапчасткі да грузавога аўтамабіля. Нелегальны тавар мытнікі разам з інспектарам Ашмянскай мытні выявілі другога красавіка. У пятым вагоне цягніка знайшлі чорную дарожную сумку з запчасткамі да аўтамабіля. Асоб, якія перавозілі тавар, не знайшлі. Папярэдняя сума ацэнкі – 42 мільёны рублёў.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**



# Злавілі хлопца, які распаўсюджваў порна

### 18-гадовага юнака затрымалі, калі ён курыў "траўку"

Фота sabah.com.tr

**Хлопец з Валожыншчыны распаўсюджваў парнаграфічныя ролікі, якія зняў з удзелам сваёй дзяўчыны.** Працяг чытайце на 4-й старонцы.

АСОБЫ

# Авіятары Адамовічы, што пакарылі Атлантыку

**ВІЛЕЙКА. Нашы земляні з Вілейшчыны былі першымі выхадцамі з тэрыторыі міжваеннай Польшчы, якія пераадолелі паветраны шлях з Амерыкі у Еўропу праз паўночную Атлантыку.**

Браты Баляслаў і Восіп Адамовічы, якія нарадзіліся паблізу Альковічаў на Вілейшчыне ў канцы 19-га стагоддзя, сталі нацыянальнымі героямі міжваеннай Польшчы. У 1934 годзе яны былі першымі выхадцамі з тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, якія пакарылі паветраны шлях з Амерыкі да Еўропы праз паўночныя воды Атлантыкі.

Да гэтага часу іхні ўчынак застаецца геройскім і легендарным. Гэта не былі прафесійныя лётчыкі, як рускі Чкалаў ці першаадкрывальнік паветранага шляху з Амерыкі ў Стары Свет ў 1927 годзе амерыканец Чарлз Ліндберг.

Простыя беларускія хлопцы, якія ўжо ў немаладым узросце дабіліся нейкага дабрабыту ў Амерыцы і здолелі за сваю капейку купіць аматарскі самалёт, навучыцца на ім лятаць, дзякуючы сваёй смеласці, інтуіцыі і адвазе зрабілі тое, што і сёння застаецца геройскім учынкам. 2 ліпеня 1934 года на аэрадроме ў сталічным Макатове іх сустракала ўся Варшава.



Нацыянальны лічбавы архіў Польшчы.

**Амерыканскія прадпрымальнікі, ураджэнцы Вілейшчыны, авіятары-аматары Баляслаў (другі справа) і Восіп (трэці злева) Адамовічы пасля пералёту праз паўночную Атлантыку на сваім самалёце Bellanca J 300 з назвай "City of Warsaw" на аэрадроме Ле Буржэ у прадмесці Парыжа. Наперадзе – Варшава. Трэці справа – пасол Польшчы ў Францыі Альфрэд Хлапоўскі. 1934 год.**

Атмасферу эйфарыі, у якой знаходзіліся варшавяне амаль восемдзесят гадоў таму, сустракаючы нашых землякоў, вы зможаце адчуць, паглядзеўшы кароценькае відэа на нашым сайце.

Польская прэса таго часу пісала, што героі насамрэч былі простымі "паядальнікамі хлеба", двума немаладымі мужчынамі з відавочнай схільнасцю да аблысення, не самыя худыя і з вясёлым выглядам бізнэсменаў з харчблока. Іх геройскі учынак, як лічылі самі браты Адамовічы, адбыўся дзякуючы вялікай дозе шчасця.

Даследчыца гісторыі Вілейшчыны **Роза Шэрая** падрыхтавала для "РГ" публікацыю пра братоў Адамовічаў, першую частку якой вы ўбачыце ў адным з бліжэйшых нумароў. Сачыце за "Рэгіянальнай газетай".

Відэа- і фотаматэрыялы пра герояў братоў Адамовічаў з-пад Альковічаў вы зможаце знайсці таксама на нашым сайце



**Мікола ГАЙДУК.**

МОЛАДЗЬ

## "Рамэа і Джульета" гучала на мове Шэкспіра

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 25 да 30 сакавіка ў Маладзечанскім дзяржаўным політэхнічным каледжы праходзіў тыдзень філалагічных дысцыплін пад назвай "Садружнасць мастацтваў".**

Пра свята распавялі выкладчыкі беларускай і рускай моў **Алена Галгоўская** і **Ірына Шурпік:**

– Такое мерапрыемства праходзіць у каледжы штогод, – кажуць выкладчыцы. – Традыцыя гэта вельмі даўняя. Падобныя тыдні ладзяцца па кожнай спецыяльнасці. Кожны дзень з тыдня філалагічных дысцыплін быў прысвечаны пэўнаму віду мастацтва.

Панядзелак – Дзень пісьменніка. Адбылася сустрэча з работнікамі цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча. Паэткі з Маладзечна **Лідзія Гардынец** і **Тацццяна Атрошанка** прадставілі свае кнігі.

Аўторак – Дзень паэзіі. Юнакі і дзяўчаты прадставілі ўласныя пераклады замежных вершаў, чыталі вершы на розных мовах.

Навучэнцы разам з выкладчыкамі прадставілі "Рамэа і Джульету" на рускай і англійскай мовах, спявалі песні на французскай, англійскай і рускай мовах.

Адметнасцю гэтага дня стала тое, што слухачы курса рускай мовы ў каледжы, якія родам з Нігерыі, спявалі песню "Вучаць у школе", а адзін з іх чытаў верш "Я памятаю цудоўнае імгненне" Аляксандра Пушкіна.

Серада – Дзень тэатра. Увазе гледачоў прадставілі камедыю Наталлі Арсенневай "Сваты", прымеркаваную да 110-годдзя з дня нараджэння паэткі.

Гэта звычайная гісторыя, аздобленая нацыянальным каларытам, беларускімі народнымі песнямі, танцамі і сакавітым народным гумарам пра тое, як дзяўчына абрала сабе жаніха.

Вось тут свой акцёрскі талент паказалі як навучэнцы, так і выкладчыкі. А пасля спектакля "акцёры" каледжа дружным складам адправіліся на чай, дзе яшчэ доўга не сціхаў гоман і смех.

Чацвер – Дзень жывапісу. Ён падарыў сустрэчу з мастачкай **Ірэнай Ханеўскай**, якая прадставіла сваю выставу "Іншы свет" у цэнтральнай бібліятэцы. Наведнікаў уразілі незвычайныя работы, выкананыя тушшу і пяром.

Пятніца – Дзень музыкі. Ён падарыў шчырую сустрэчу з беларускай народнай песняй.

Акрамя гэтага, ініцыятыўныя групы навучэнцаў прадставяць свае творчыя работы, газеты, малюнкі на кожны дзень тыдня.

– Самае складанае – знайсці нешта новае, укласці сваю энергію, фантазію і сілу так, каб гэта праца захапіла астатніх, – кажуць выкладчыкі. – І калегаў, і вучняў. А, як вядома, – дружная каманда дамагаецца выдатных вынікаў.

**Аляксандра ЭГЕРТ.**



Фота з архіва Аляксандры ЭГЕРТ.

**Камедыя Наталлі Арсенневай "Сваты" на тыдні філалагічных дысцыплін.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## У бізнесмэны – са школьнай парты

**МАЛАДЗЕЧНА. Марыш стаць бізнесмэнам? Пачні ўжо цяпер! Атрымаць асновы эканамічных ведаў, першапачатковы досвед прадпрымальніцкай дзейнасці і першыя ўласныя грошы можна, стварыўшы школьную бізнес-кампанію.**

Хутка "свая справа" з'явіцца практычна ў кожнай установе адукацыі Маладзечанскага раёна. Напрыклад, у Палачанскай, Селецкай, Засквіцкай школах, СШ №5 гарачай веснавой парой можна будзе купіць расаду гароднiны.

Развядзеннем кветак займаецца прадпрыемства "Лідар" Гарадоцкай школы. Педагогі вучаць дзяцей даглядаць за пакаёвымі раслінамі. Да таго ж трэба ўмець правільна размяшчаць іх: побач з камп'ютарам лепш паставіць кактус, а ў дзіцячы пакой – фіялкі, якія сваім цвіценнем будуць цешыць вока практычна круглы год.

Шэраг бізнес-кампаній (СШ №№1, 2, 14, Аляхновіцкай, Чысцінскай школ, цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" і іншыя) спецыялізуецца на продажы вырабаў уласнай вытворчасці: упрыгожванняў, паштовак, сувеніраў, флікераў і гэтак далей.

Навучэнцы Гарадзілаўскай сярэдняй школы пачалі з малога – вытворчасці рабочых рукавіц, але наперадзе ў іх маштабныя перспектывы, бо дэвіз юных прадпрымальнікаў: "Ад падмурку – да вяршыні, ад школьнай кампаніі – у вялікі бізнес".

Прэзентацыя школьных бізнес-кампаній, якія ўжо дзейнічаюць або запрацуюць у хуткім часе, адбылася падчас вясновых канікулаў у цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік". Група дзяцей тоўпілася каля стэнда СШ №9. Тут наладзілі сапраўдную "Масленіцу" з гульнямі, конкурсамі, прызамі. Кампанія "Дзявятачка" прапаноўвае экскурсійныя паездкі з мэтай вывучэння роднага краю.

Не меншую цікавасць у гледачоў выклікала прадпрымальніцкая ідэя СШ №4.

– Наша кампанія афармляе памяшканні для правядзення вясельных імпрэз, вырабляе бамбаньеркі – вытанчаныя скрыначкі для цукерак. Таксама вучні школы збіраюць і засушваюць лекавыя расліны. У нас ёсць дамоўленасць на іх пастаўку з аптэкай, – расказала педагог **Вікторыя Высоцкая**.

Некаторыя бізнес-кампаніі ўжо прыносяць прыбытак, і немалы. Да прыкладу, на вырабе фотаздымкаў, календароў, магнітаў, блакнотаў і іншай друкаванай прадукцыі вучні гімназіі №10 зарабляюць у сярэднім 700 тысяч рублёў у месяц.

Акрамя гэтага ў "Маладзіку" адбылося адкрыццё гульнявога пакоя, дэвіз якога – прывальны кошт, прыемная кампанія і разнастайнасць цікавых гульняў. Тут ёсць забаўкі для рознага ўзросту і на любы густ: канструктары, пазлы, лато, мазаікі, шашкі і нарды, настольныя "хадзілкі", віктарыны. Першыя наведнікі засталіся вельмі задаволеныя і не хавалі захаплення.

– Больш за ўсё мне спадабалася гуляць у хакей. Я мару, каб нам з братам купілі такую ж гульню, – падзяліўся ўражаннямі васьмігадовы **Клім Ляшок**.

Цяпер у бацькоў не будзе праблем, дзе пакінуць дзіця, калі ёсць патрэба адлучыцца на некалькі гадзін.

**Дар'я ЦАУНЯ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

СПАЖЫВЕЦ

# Ці лёгка ў Маладзечне вывучыць англійскую?

**МАЛАДЗЕЧНА. Вывучэнне замежнай мовы сёння не толькі модна і прэстыжна, але з'яўляецца і абавязковай умовай паспяховай кар'еры і будучыні, што імгненна адбілася на попыце такіх відаў паслуг.**




Фота bridgechile.com

Хто не вывучыў замежную мову ў школе, можа атрымаць патрэбныя веды. Але ўжо за грошы.

Цікава даведацца, як ідзе справа з замежнымі курсамі ў Маладзечна. У нашым горадзе ёсць адзіны цэнтр, дзе прапаноўваюць патрэбныя нам паслугі. Тэрмін вывучэння замежнай мовы складае прыблізна год. Навучальны працэс складаецца з некалькіх узроўняў авалодання мовай. Напрыклад, першы ўзровень складае 4 месяцы. Заняткі праходзяць 2 разы на тыдзень. Кошт за два месяцы – 930 тысяч (такія ўмовы аплаты). Таксама ёсць у горадзе і рэпетытары. На жаль, яны займаюцца толькі падрыхтоўкай да цэнтралізаванага тэставання. У сярэднім, кошт аднаго занятку складае 7-12 у. а. Калі такі варыянт не падабаецца, то можна разгледзець іншы – Мінск.

Тут аб'яў па гэтай тэме знойдзецца мноства. Ёсць шмат курсаў, дзе прапаноўваюць вывучыць замежную мову за 6 месяцаў. Ёсць такія, дзе акцэнт робяць на камунікацыйны ці інтэнсіўны курс вывучэння мовы. І толькі зусім невялікі працэнт школ, дзе працэс навучання замежнай мове складае больш за адзін год. Але адну з галоўных асаблівасцей такіх моўных школ складае пастаянны кантакт непасрэдна з носьбітамі мовы. Звычайна мовы ў асартыменце амаль аднолькавыя. Пачынаючы з англійскай і заканчваючы японскай.

Для таго, каб дакладна ведаць свой узровень ведаў, перад навучаннем кожная школа прапаноўвае прайсці папярэдні бясплатны тэст. Ён можа быць як онлайн-тэстам, так і звычайным, пісьмовым.

У сярэднім групы складаюць 6-12 чалавек. Акрамя гэтага ёсць варыянты карпаратыўнага навучання і індывідуальнага. Заняткі праходзяць 2-3 разы на тыдзень. У сярэднім кошт такіх курсаў за 4 месяцы вагаецца ад 1,7 мільёна да 3 мільёнаў. Калі ж вам трэба дабірацца на курсы з Маладзечна, то дадайце яшчэ прыкладна 45 тысяч штотыдзень (электрычка і праезд у горадзе).

Ёсць яшчэ адзін варыянт вывучэння замежнай мовы – "паштовы". Карэспандэнцкія арыентаваныя на асаблівасці дадатковай адукацыі і прызначаныя для людзей, якія жадаюць самастойна вывучаць замежныя мовы. Такія курсы прапануюць вывучэнне каля дзевяці замежных моў. Бываюць часта скідкі. Таксама распаўсюджана, многім вядомая, акцыя як "Бясплатны пробны ўрок" абсалютна любой мовы.

Увесь курс вывучэння складае 20 месяцаў. Гэта, напрыклад, англійская мова для пачаткоўцаў, а вось дзелавая англійская – усяго 7 месяцаў. Кошт навучання ў месяц складае прыблізна 218 тысяч (без скідкі). А за 20 урокаў тай жа англійскай, напрыклад, атрымоўваецца каля 4 мільёнаў. Да вучэбных матэрыялаў курса (падручнік, сшытак з практыкаваннямі, дыск і г.д.) часта прадугледжаны і дадатковыя (граматычныя даведнікі, кішэнныя слоўнікі). А практычныя і дамашнія заданні можна высылаць на праверку выкладчыку. Толькі варыянт з самастойным навучаннем будзе пасаваць, напэўна, уседлівым і старанным вучням.

Які шлях абраць – вырашайце самі. Вынік у кожным разе будзе залежаць ад вашай напорыстасці, старраннасці і прагі да мэты.

**Аляксандра ЭГЕРТ.**

**Колькі будзе каштаваць навучанне цягам шасці месяцаў?**

| Від навучання | На што і колькі ідзе грошай | Колькасць заняткаў на тыдзень | Агульны кошт за 6 месяцаў |
|---|---|---|---|
| **Курсы ў Маладзечне** | 930 тысяч рублёў за 2 месяцы | 2 | 2 мільёны 730 тысяч рублёў |
| **Рэпетытар у Маладзечне** | Адзін занятак – у сярэднім 10 у. а. | 2 | 4 мільёны 681 тысяча рублёў |
| **Курсы ў Мінску** | 2 мільёны 500 тысяч рублёў за 4 месяцы + праезд 45 тысяч рублёў у тыдзень | 2 | 4 мільёны 780 тысяч рублёў |
| **Дыстанцыйныя курсы** | 218 тысяч рублёў у месяц | Інтэнсіўнасць навучання залежыць ад жадання вучня | 1 мільён 308 тысяч рублёў |

| Курсы валют НБ РБ | 28.03 руб. | 4.04 руб. |
|---|---|---|
| **Долар ЗША** | 8 660.00 | **8 700.00** |
| **Еўра** | 11 130.00 | **11 140.00** |
| **Злоты** | 2 659.42 | **2 659.53** |
| **Літ** | 3 219.57 | **3 228.62** |
| **Расійскі рубель** | 280.50 | **277.00** |
| **Грыўня** | 1 063.42 | **1 066.96** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 8620/8680 | **8670/8720** |
| **Еўра** | 11090 /11200 | **11120/11210** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.03 Цана руб. | 3.04 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 120680 | **121000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45000** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 80000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24500 | **24800** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 29800 | **29800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9650 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9800 | **9850** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| **Алей** | 15000 | **16300** |
| **Маянэз**, 200 г | 4500 | **4800** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7200 | **7600** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11950 | **9800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Капуста**, 1 кг | 8700 (свежая) | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 5600 | **3500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 19000 | **18500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **14000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 27000 | **26000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18900 | **21500** |
| **Перац**, 1 кг | 40000 | **39000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 33000 | **33000** |
| **Бананы**, 1 кг | 8000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6500 | **6000** |
| **Грушы**, 1 кг | 19500 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Бульба**,1 кг | 3000 | **10000** (5л) |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

ХАРЧАВАННЕ

## У Мядзеле з'явілася першая піцэрыя

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 29 сакавіка, у райцэнтры адкрылася піцэрыя. Яна стала першай у Мядзеле.**

Размясцілася яна ў цэнтры горада па вуліцы Крупскай, у будынку колішняга кафэ "Ласунак". Належыць мясцоваму райспажыўтаварыству.

Рамонт будынка пачаўся восенню мінулага года. У выніку атрымалася ўстанова з сучаснай мэбляй і ўтульным інтэр'ерам. У меню значыцца 12 відаў піцы. Самая танная піца – "Чабурашка" абыдзецца амаль у 19 тысяч рублёў.

Самая дарагая – "Чатыры сыры" – каштуе больш за 44 тысячы рублёў. Піцу можна заказаць і з сабой.

Піцэрыя працуе штодзённа з 10 да 22 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Піцэрыя ў Мядзеле, гатуе піцу повар Дзмітры Арцёменка.

ЗДАРЭННІ

## У краме быў выбух

**МАЛАДЗЕЧНА. Выбух адбыўся каля 20 гадзін 2 красавіка.**

У краме "Водар хлеба", што знаходзіцца ў 10-м мікраранё, 44-гадовы прадпрымальнік займаўся абслугоўваннем кандыцыянера. Калі мужчына паяў трубы, праз якія праходзіць фрэон, здарыўся выбух.

У выніку ўзнікла моцнае задымленне, але агню не было.

Прадпрымальнік атрымаў апёкі 3 і 4 ступені цяжкасці галавы, шыі і рук, чэрапна-мазгавую траўму, пералом пляча. Цяпер ён у рэанімацыі, паведаміў **Юры Багушэвіч**, старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта.

Падчас выбуху ў краме адключылася электрычнасць, цяпер яна не працуе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД



Фота rbc.ru

Сапраўднага палявання не планавалася. Мужчына проста хацеў папужаць дзікоў, каб тыя не рылі бульбяныя палеткі.

# Неспадзявана застрэліў знаёмага на паляванні

**ВАЛОЖЫН. Мужчына пайшоў на паляванне на дзіка, а выпадкова выстраліў у знаёмага.**

Гэта здарылася летась, 1 ліпеня, паблізу вёскі Вярцімы Валожынскага раёна.

Двое сяброў пайшлі на паляванне на дзіка, калі на вуліцы ўжо сцямнела.

Яны хацелі паганяць дзікоў, каб тыя не пашкодзілі пасаджаную на полі бульбу.

У аднаго з іх была з сабой зарэгістраваная паляўнічая стрэльба. Калі яны прыехалі на поле, адзін з іх заўважыў дзве цёмныя плямы і выстраліў па адной.

Раптам пачуўся чалавечы крык. Калі мужчына прыбег на голас – убачыў двух сваіх знаёмых. Аднаму з іх куля патрапіла ў галаву.

Мужчыны паклалі пацярпелага ў сваю машыну і завезлі ў Валожынскую бальніцу.

Але выратаваць яго не змаглі.

Абвінавачаны цалкам прызнаў сваю віну. Суд прызначыў яму пакаранне 1 год і 6 месяцаў абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Таксама мужчына павінен выплаціць 15 мільёнаў рублёў жонцы загінулага.

Абвінавачанаму 42 гады. Ён жыве ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна, мае сярэднюю адукацыю, працуе кіроўцам, жанаты і выхоўвае 16-гадовае дзіця.

**Андрэй ЖУКОЎСКІ, памочнік пракурора Валожынскага раёна.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Цяжкіх злачынстваў стала больш

**ВІЛЕЙКА. У 2012 годзе на Вілейшчыне пабольшала колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. Большасць з іх здзейснілі наўмысна.**

Летась у Вілейскім раёне зарэгістравана дзесяць такіх злачынстваў, а ў 2011 годзе іх было ўсяго шэсць.

Паводле статыстыкі, пераважна гэтыя злачынствы здзяйсняюць мужчыны, у двух выпадках – жанчыны.

Адна з гэтых жанчын у выніку забіла пацярпелага. Летась 20 мая 32-гадовая жанчына ўдарыла мужчыну, з якім яны разам пілі, нажом у грудную клетку. Мужчына памёр.

Суд прызначыў жанчыне пакаранне ў выглядзе шасці з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Тыповы партрэт чалавека, які здзяйсняе цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы: мужчына працаздольнага ўзросту, вядзе асацыяльны і паразітычны лад жыцця, злоўжывае спіртнымі напоямі.

Ва ўсіх разгледжаных выпадках злачынца і пацярпелы знаёмыя і перад злачынствам разам выпівалі. У большасці выпадкаў злачынца дзейнічаў знянацку, а пацярпелы яго правакаваў на спрэчку.

Развіццё спрэчкі часта залежала ад паводзінаў самой ахвяры.

Усе 10 злачынстваў раскрытыя, а злачынцы пакараныя.

У выпадку, калі наўмыснае нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў прывяло да смерці пацярпелага, злачынцу чакае ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ, намеснік пракурора Вілейскага раёна.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

## Нелегальна прадавалі алкаголь і цыгарэты

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду, 27 сакавіка, у адной з маладзечанскіх крамаў выявілі нелегальнае захоўванне алкаголю і цыгарэт.**

Як паведаміў начальнік аддзела аператыўнага кантролю маладзечанскай падатковай інспекцыі **Аляксей Чурынаў**, крама захоўвала і прадавала без адпаведных дакументаў цыгарэты і алкаголь.

Супрацоўнікі падатковай інспекцыі канфіскавалі больш за 650 розных бутэлек алкаголю, а таксама 708 пачкаў цыгарэт. Агульны кошт тавару складае больш за 34 мільёны рублёў.

Матэрыялы гэтай справы будуць перададзены ў суд.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

## Злавілі хлопца, які распаўсюджваў порна

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**ВАЛОЖЫН. Супрацоўнікі міліцыі ў Валожынскім раёне затрымалі 18-гадовага хлопца, які здымаў і распаўсюджваў парнаграфічныя ролікі і фотаздымкі непаўналетнім сябрам.**

– У яго знайшлі каля 800 фотаздымкаў і 80-і відэаролікаў, якія носяць парнаграфічны характар, – кажа старшы следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**.

Частку парнаграфічных файлаў ён зняў з непаўналетняй дзяўчынай, з якой сустракаецца каля трох гадоў. Яны пазнаёміліся, калі вучыўся ў валожынскім ліцэі. Пара здымала саміх сябе.

А таксама частку парнаграфічных файлаў хлопец запампоўваў з інтэрнэта і захоўваў сабе на тэлефон.

Гэтыя парнаграфічныя файлы ён "скідаў" сваім непаўналетнім сябрам. Суседу ў вёсцы ён прапанаваў пагледзець чатыры парнаграфічныя відэаролікі і некалькі фотаздымкаў.

Потым ён прапанаваў яму "скінуць" некалькі фотаздымкаў. Той пагадзіўся. Падазраваны скінуў яму фотаздымак, на якім была гімнастка без ніжняй бялізны, і відэаролік парнаграфічнага характару.

Маладзён перадаў некалькі парнаграфічных файлаў яшчэ аднаму паўналетняму сябру. І паказаў яму відэаролік, які яны знялі са сваёй дзяўчынай.

Аднак хлопца затрымалі за тое, што ён курыў расліныя наркотык. Калі міліцыянеры даставілі яго ў аддзяленне міліцыі, то ў тэлефоне знайшлі шмат парнаграфічных файлаў.

Хлопец прызнаў сваю віну.

Цяпер яму пагражае ад 2 да 4 гадоў пазбаўлення волі.

Хлопец жыве ў адной з вёсак Валожыншчыны, працуе ў калгасе.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛУЖБА 101

## Інвалід па зроку на пах вызначыў, што гарыць дом

**ВАЛОЖЫН. Жылы дом гарэў у Валожыне днём у нядзелю, 31 сакавіка.**



Фота 112.by.

Дом па вуліцы Шчарбіны ў Валожыне цяпер непрыдатны для жыцця.

– Пра тое, што з вокнаў дома па вуліцы Шчарбіны ідзе чорны дым, паведамілі выратавальнікам суседзі, – кажа старэйшы інспектар дзяржпажнагляду Валожынскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Калітнік**.

Калі пажарныя прыехалі на месца здарэння, гарэў дах.

У доме жыў 62-гадовы мужчына, інвалід першай групы па зроку. Ён амаль нічога не бачыў. На момант пажару гаспадар быў дома і знаходзіўся на кухні. Мужчына адчуў пах дыму і выбраўшы правяртыць пакой.

Але дым разышоўся па ўсім доме. Тады ён адчуў няладнае і хуценька пабег да суседзяў. Мужчына папрасіў, каб яны патэлефанавалі выратавальнікам, бо сам ён нічога не бачыць.

Агонь знішчыў дах, выгараў знутры дом і драўляны хлеў, які быў пад адным дахам.

Цяпер дом не прыдатны для жыцця. Пенсіянер часова знаходзіцца ў аддзяленні Валожынскай бальніцы.

Суседзі расказалі, што мужчына злоўжывае спіртнымі напоямі, курыць і быў неаднаразова асуджаны.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Мужчына проста так збіў 76-гадовага інваліда

**МАЛАДЗЕЧНА. Нецвярозы маладзечанец збіў кулакамі і нагамі 76-гадовага мужчыну.**

Усё здарылася 27 верасня мінулага года. Нецвярозы 44-гадовы мужчына дагнаў і схапіў старога за куртку ды пачаў збіваць. Пажылы мужчына зваліўся на зямлю.

Але абвінавачаны на гэтым не спыніўся. Трымаючы адной рукой каўнер курткі старога, каб бачыць яго твар, мужчына працягваў малаціць кулакамі, а потым яшчэ і нагамі па тулаве, нагах і руках.

Мужчына, які знаходзіўся непадалёк, пачуў крык аб дапамозе і ўбачыў на зямлі старога чалавека, побач з якім ляжаў кій. Бачыў і плечы абвінавачанага, які пайшоў сабе далей.

Пенсіянер мае трэцюю ступень інваліднасці з дзяцінства. Ён ходзіць з кіем.

Траўмы, якія ён атрымаў, адносяцца да лёгкіх цялесных пашкоджанняў.

Абвінавачаны прызнаў сваю віну цалкам.

Суд абавязаў мужчыну выплаціць штраф – пяць мільёнаў рублёў. Таксама яго будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ТАПАНІМІКА

# Новыя назвы вуліцам дадуць самі гараджане

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райвыканкам звярнуўся да жыхароў горада з прапановай даць імёны вуліцам, завулкам і праездам горада, якія пакуль не маюць назвы.**

Без назвы пакуль застаюцца вуліцы, што злучаюць Вялікі Гасцінец і Лібава-Роменскую вуліцу, а таксама Міру і Хмяльніцкага. Дзесяць новых імёнаў чакаюць вуліцы і завулкі раёна індывідуальнай забудовы Фестывальны, і сем – у паўднёвай частцы горада.

Пасля таго, як да Маладзечна далучылі некалькі вуліц вёскі Рагазы, узнікла патрэба замяніць тыя назвы, якія ў горадзе ўжо ёсць. Таму Маладзечанская і Усходняя вуліцы Рагазаў таксама атрымаюць новыя назвы. Пяць вуліц і два праезды былой вёскі назваў пакуль не маюць.

– Са сваімі прапановамі могуць звяртацца не толькі прадпрыемствы і арганізацыі, але і асобныя грамадзяне, – гаворыць начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Святлана Хрусталёва**. – Прапанаваную назву трэба абавязкова абгрунтаваць. Аформіць яе можна ў адвольнай форме, а пасля накіраваць у райвыканкам па пошце, факсе ці даслаць на электронны адрас.

Канчатковае рашэнне будзе прымаць камісія па перайменаванні вуліц, пасля яго зацвердзіць Маладзечанскі раённы Савет дэпутатаў.

**Свае прапановы з абгрунтаваннямі накіроўвайце на адрас: Маладзечна, вул. Прытыцкага 3-а, з паметкай "Вывучэнне думкі грамадзян" альбо на электронны адрас: mol-ideologia@mail.ru ці прысылайце па факсе: 8 (0176) 77-03-41.**



Фота Ігара МАРОЗА.

Шыльды на некаторых маладзечанскіх дамах чакае чарговае абнаўленне.

## Краязнаўца раіць надаць вуліцам мясцовы каларыт

Мы папрасілі дапамагчы ацаніць, чые імёны варта ўшанаваць у назвах вуліц, краязнаўцу **Міхася Казлоўскага**.

На яго думку, варта улічваць, наколькі пастаць асобы, у гонар якой называюць вуліцу, застаецца важнай пасля смерці.

Сярод названых людзей – толькі тыя, хто звязаны з Маладзечаншчынай.

Спадар Міхась прапанаваў прозвішчы наступных асоб:

**Мікалая Ермаловіча**, гісторыка,

**Юрыя Герасіменку-Жызнеўскага**, мастака,

**Ядвігу Раздзялоўскую**, мастачку,

**Зміцера Крачкоўскага**, мастака,

**Пятра Бітэля**, паэта,

**Яўгена Вярбіцкага**, біяхіміка (нарадзіўся ў мястэчку Краснае).

**Вячаслава Селяха-Качанскага**, опернага спевака,

**Івана Насовіча**, мовазнаўцы, этнографа,

**Канстанціна Вераніцына**, паэта, меркаванага аўтара паэмы "Тарас на Парнасе",

**Апанаса Ярушэвіча**, апошняга дырэктара Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі,

**Рыгора Семашкевіча**, пісьменніка, літаратуразнаўцы.

Дарэчы будзе ў Маладзечне і вуліца **Барыса Кіта**, аднак варта ўлічваць, што вядомаму навукоўцу цяпер 103 гады, ён жыве ў Германіі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТВОРЧАСЦЬ

## Адкрылася выстава студыі "Завязь"

**МАЛАДЗЕЧНА.** 4 красавіка ў Палацы культуры адкрылася выстава, якая будзе працаваць цягам месяца.

Студыя "Завязь" з'явілася ў Вязынкаўскім цэнтры культуры чатыры гады таму. Кіраўнік – **Сяргей Храпін**.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

## Ушануюць вязняў шталага

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 11 раніцы 11 красавіка адбудзецца жалобны мітынг у гонар вязняў маладзечанскага "Шталага – 342". Пасля ўрачыстасці пройдзе сустрэча са сваякамі вязняў, якіх знайшлі ўдзельнікі клуба "Пошук". Пра гэта паведаміла кіраўніца клуба **Лідзія Князева**.

**Аддзел інфармацыі.**

ТВОРЧАСЦЬ

# Паэт, які дыктуе вершы




Фота з аблічча Алеся Высоцкі.

Партрэт паэта Зыдора Вайнілкі, выкананы мастаком Алесем Цыркуновым.

**МЯДЗЕЛ. Напрыканцы сакавіка выйшла кніга "Падаючыя зоркі". Гэта зборнік вершаў Зыдора Вайнілкі – паэта, чалавека з абмежаванымі магчымасцямі. Ініцыятарам выхаду кнігі стаў краязнаўца з вёскі Камарова Іван Драўніцкі.**

Ён расказаў, што Зыдор нарадзіўся ў ліпені 1952 года ў вёсцы Куркулі Мядзельскага раёна. У шасцімесячным узросце цяжка захварэў, стаў інвалідам з дзяцінства. Самастойна навучыўся пісаць, маляваць, далучыўся да паэзіі.

– З нашай Куцькаўскай школы мы яму да Новага года выдзялялі падарункі ад Дзеда Мароза – цукеркі, – узгадвае Іван Драўніцкі. – У 1979 годзе ад яго прыйшла запіска: "Прашу больш падарункаў мне не прысылаць, бо ўжо старэю, мне 27 год". Цукеркі замянілі кніжкамі.

Пасля таго, як памёр бацька, аслабла мачаха, Зыдор жыве па дамах-інтэрнатах для састарэлых і інвалідаў. Немалы час жыў у адпаведнай установе ў Маладзечне. Там радаваў людзей сваімі вершамі. За творы на конкурсе паэзіі ў намінацыі "За духоўнае адраджэнне", які быў прымеркаваны да Дня Незалежнасці, прысудзілі першае месца. Цяпер Зыдор жыве ў Лагойскім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. І калі раней мог сесці ў інвалідную каляску і сам сябе абслугоўваць, то зараз цалкам залежыць ад іншых. Нават вершы даводзіцца дыктаваць.

– Уражваюць душэўныя шчырасць і дабрыня гэтага чалавека, – кажа Іван Драўніцкі. – Ён знаходзіцца ў незайздросным становішчы, але не наракае на свой лёс, а іншым людзям жадае міру і дабра.

У зборніку пераважна рускамоўныя вершы, але ёсць і на беларускай мове. Піша Зыдор на розныя тэмы: пра шлях да Бога, прыроду, сяброў, родны край:

*Мая хата пустая стаіць*
*без вакон –*
*Да яе я ўжо не вярнуся,*
*Толькі блізкім суседзям*
*свой нізкі паклон*
*Перадаць хоць у вершах*
*імкнуся.*

Зборнік выдалі метадам самвыдату. Іван Драўніцкі далучыў да выдання шмат людзей. Жыхарка Маладзечна **Таццяна Шкода** збірала рукапісы паэта, запісвала вершы **Рэгіна Матукевіч**. Мастак Алесь Цыркуноў намаляваў ілюстрацыю да вокладкі і партрэт мастака, дапамагалі яшчэ настаўніцы Камароўскай школы **Вольга Гуйская** і **Алена Дунец**, вучні **Лізавета Марчанка, Алеся Дрозд, Віялета Мядзельская**. Стараліся над выданнем **Зміцер Лупач** і **Юры Калбасіч** з Глыбокага, **Міхал Гіль** з Паставаў. Фінансавую дапамогу аказалі старшыні ААТ "СвірАгра" **Генадзь Юхно** і Свірскага пасялковага выканкама **Віктар Субач**. Агульнымі намаганнямі і пабачыў свет зборнік, тыраж якога 50 экзэмпляраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Зыдор Вайнілка**

### Развітанне

*Вельмі рад, што мой*
*голас пачуты,*
*Што да сэрцаў людскіх*
*ён дайшоў,*
*Гэты дом для мяне быў*
*замкнуты,*
*А цяпер у ім многа сяброў.*

*Гэты горад, што даў мне*
*прытулак,*
*Для мяне стаў такім*
*дарагім,*
*Быццам родным стаў*
*кожны завулак,*
*Нібы я й нарадзіўся ў ім.*

*Тут знайшоў я прызнанне*
*паэта,*
*Шмат пазнаў я цудоўных*
*людзей,*
*Ад іх клопатаў сэрца*
*сагрэта,*
*Ад іх ласкі бывае лягчэй.*

*Сказаць мала ім "Шчырае*
*дзякуй",*
*Мала шчасця ўсім*
*пажадаць,*
*Каб ніхто з іх ад гора*
*не плакаў,*
*Я свой талент гатовы*
*аддаць.*

**Маладзечна, 08.01.2008.**

ВЫСТАВЫ

## "Вальс кветак" з'явіўся ў музеі

**ВАЛОЖЫН. Ад 22 сакавіка ў мастацкай галерэі краязнаўчага музея адкрылася выстава "Вальс кветак" маладзечанскай мастачкі Ядвігі Сянько.**

У музеі прадстаўлены 38 работ. Іх можна пабачыць да 3 мая.

– Гэта чарговая выстава Ядвігі Сянько. Нядаўна ў нашым музеі дэманстраваліся напісаныя мастачкай іконы, – кажа дырэктар Валожынскага краязнаўчага музея **Наталля Лоўчая**.

Цяпер валожынцы могуць ацаніць яшчэ адну грань творчасці мастачкі – паглядзець на кветкавыя кампазіцыі і пейзажы.

На карцінах адлюстраваныя розныя кветкі. Напрыклад, бэз, астры, жоўтыя цюльпаны, нацюрморт з ліліямі. Карціны мастачкі выкананы на палатне алеем.

Дзецям, якія прыходзяць паглядзець выставу, супрацоўнікі музея расказваюць розныя легенды пра кветкі, пра грэчаскую багіню Флору.

І калі прачытаць карціны на мове кветак, то жоўтыя цюльпаны раскажуць аб безнадзейнай любові, ружовыя ружы – пра ветлівасць, падатлівасць і пачцівасць, а белыя лілеі – пра маральную чысціню.

Работы мастачкі Ядвігі Сянько знаходзяцца ў прыватных калекцыях ва Украіне, у Расіі, Арменіі, краінах Балтыі, Польшчы, Германіі, Італіі, Англіі, ЗША.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота mk.by.

Мастачка з Маладзечна Ядвіга Сянько.

ПАЗАШКОЛЬНАЯ ПРАЦА

## Юныя даследчыкі вызначыліся ў Мінску

**ВІЛЕЙКА. 29 і 30 сакавіка ў Мінску праходзіў абласны конкурс даследчых работ малодшых школьнікаў "Я – даследчык". На конкурс паступіла 86 заявак.**

Вілейскі раён у ім прадстаўлялі чатыры школьнікі. Тры вярнуліся дадому з узнагародамі. Вучаніца 4 класа сярэдняй школы №3 Вілейкі **Дар'я Мароз** стала лаўрэатам конкурсу. Другакласнік гімназіі №1 "Логас" **Арцём Кратовіч** узнагароджаны Дыпломам другой ступені ў секцыі "Матэматыка, фізіка, тэхніка". Яго праца – "Новае жыццё старадаўняга вынаходніцтва". Вучань 4 класа гімназіі №2 **Ілля Курыловіч** адзначаны Дыпломам трэцяй ступені. З працай "Краязнаўчыя пошукі майго дзядулі Анатоля Валянцінавіча Рогача" ён удзельнічаў у секцыі "Гуманітарныя веды".

**МЯДЗЕЛ. Мядзельшчыну на абласным конкурсе даследчых работ малодшых школьнікаў "Я – даследчык" прадстаўлялі выключна дзяўчынкі.**

Вучаніцы 2 класа СШ №2 Мядзела **Кацярына Івашка** і 4 класа Нарацкай СШ №2 **Яна Куратнік** сталі лаўрэатамі конкурсу, а найлепш выступіла чацвёртакласніца Нарацкай СШ №2 **Анастасія Блізнюк**. Яна перамагла ў секцыі "Гуманітарныя веды" і заваявала Дыплом першай ступені. У сваёй працы дзяўчынка даследавала шлях свайго прадзядулі ў Вялікай Айчыннай вайне.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## У "Зубраня" з'ехаліся юныя таленты

**МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" 27 сакавіка пачалася новая змена "Адважвайцеся – вы таленавіты!"**

– У ёй удзельнічаюць 365 дзяцей з усёй Беларусі, – расказала загадчыца аддзела дзіцячай творчасці цэнтра **Таццяна Ягоршына**. – Гэта юныя паэты і майстры дэкаратыўна-прыкладной творчасці, удзельнікі 14 фальклорных калектываў.

Падчас змены пройдзе рэспубліканскі конкурс "Юныя таленты Беларусі". Пачаўся ён конкурсам паэтычнага майстэрства. Прадоўжыцца конкурсамі дэкаратыўна-прыкладной творчасці і фальклорных калектываў.

## У Мядзеле прайшла занальная гульня КВЗ

**МЯДЗЕЛ. У пятніцу, 29 сакавіка, у райцэнтры прайшла занальная гульня клуба вясёлых і знаходлівых юных інспектараў дарожнага руху.**

Прынялі ў ёй удзел прадстаўнікі Мядзельскага, Вілейскага, Лагойскага раёнаў і Жодзіна. У гульні было чатыры конкурсы: візітоўка, "Вясёлы рэгуліроўшчык", "Агучка" і музычнае хатняе заданне. Перамагла каманда Жодзіна, якая і прадоўжыць барацьбу ў фінале. Каманда Мядзельскай СШ №1 "Сцеражыся аўтамабіля" заняла другое месца.

**Аддзел інфармацыі.**

- 1-2-3-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін у Маладзечне, з добрым рамонтам і наяўнасцю мэблі. Т. Лайф (8-025) 7516297.*
- 1-2-3-пакаёвую кватэру для арганізацыі на працяглы тэрмін у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5740954.*
- 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*
- 1-2-пакаёвую кватэру або дом для маладой сям'і ў Вілейцы, парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т. (8-029) 7657182, (8-029) 5849745.*
- 2-3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, папярэдняя аплата за 6 месяцаў наперад. Т. (8-029) 6534540, (8-029) 8596638.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **"АЛЯКСАНДРА"** – новы вясельны салон, выпускныя і дзіцячыя ўборы. ІП Ліпніцкая А. Г. УНП 691397956. Т. (8-029) 9509215, (8-044) 7567877.*
- **"АФРАДЫТА"-ВЯСЕЛЬНЫЯ СУКЕНКІ, ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ, СУКЕНКІ ДЛЯ ДЗЯЎЧЫНАК. УПРЫГОЖВАННІ НА АЎТО. Вілейка, Вадап'янава, 23 (2 паверх)**. ІП Лаўрыновіч А.І. УНП 691172722. Т. (8-029) 3854965.
- **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*
- "**МІЛЭДЗІ**" – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*
- **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, выпускныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*
- Музычнае абслугоўванне вяселляў і іншых урачыстасцей. Т. (8-029) 6188716.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў і іншых урачыстасцей. Т.(8-029) 7825777, (8-033) 6228417.*
- **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*
- Самазвалы МАЗ 5516 – 20 тон, МАЗ 5551 - 10 тон (пясок, гравій, шчэбень, смецце, вываз снегу), мэблевы фургон Мерседэс 410 - 2 тоны, 16 куб.м. ТАА "Матэк-Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*
- Франтальны пагрузчык ТО-18, коўш 2 куб.м (планіроўка, капанне катлаванаў, пагрузка смецця, снегу) і кранавая страла г/п да 2 тон (разгрузка блокаў, цэглы, абсталявання). Экскаватар ЮМЗ (каўшы 40 і 60 см). Міні-экскаватар УСВ (глыбіня да 2,7 м). ТАА "Матэк-Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*
- Мерседэс ATEGO 818 L, тэнтаваны, гідраборт да 4 т. ЧТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574, (8-029) 7787709.*
- Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **АЗДАБЛЕННЕ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ**: гіпсакардон, штучны камень, тынкоўка, электрамантажныя працы і інш. Якасна, наяўны і безнаяўны разлік. ТАА "Айран Стыль". УНП 691506954. Т. (8-029) 9700044.*
- Аўтаэлектрык. Камп'ютарная дыягностыка, устаноўка сігналізацыі, падключэнне аўтамагнітол, рамонт электраабсталявання. ІП Бандарэнка А.К. УНП 690383566. Т. (8-029) 5717325.*
- Бурэнне свідравін на ваду, палі, 125 мм, 50 мм, дагавор, гарантыя 5 гадоў, сертыфікат якасці матэрыялаў. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 7860317, (8-029) 8817111.*
- Вырашэнне камп'ютарных праблем. Наладка інтэрнэт і WiFi. Узнаўленне інфармацыі і многае іншае. ІП Коршук С.Н. УНП 691504992. Т. (8-029) 8540934, (8-029) 9856421.*
- Нацяжныя столі. ІП Жукаў А.А. УНП 691167273. Т. (8-029) 6301204, (8-029) 5024464.*
- Гідраманіпулятар на базе КАМАЗ, грузападымальнасць 10 т., борт 2,40+5 м, вылет стралы 8 м, да 2,5 т. ІП Кароль Е.І. УНП 69469858. ІП Кароль Е.І. Т. (8-029) 2638867, (8-029) 1588094.
- Гранітныя помнікі, агароджы. Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. Маладзечна, вул.Ф.Скарыны, міні-рынак "СПАДАР", павільён 19. УНП 691172707. ЧПТУП "Лапіда". Т. (8-029) 7025865.
- Дах, уцяпленне, аддзелка ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок Хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9497847, (8-029) 8910834.*
- **ДАХАВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ**: бітумная (гнуткая) чарапіца, кампазітная чарапіца, андулін, парагідраізаляцыйная плёнка, вадасцёкавая сістэма, уцяпляльнікі, ОСБ-панэлі, сайдынг. Прафесійны мантаж. ІП Місюкевіч. УНП 691289699. Т. (8-029) 3780159, (8-029) 7785916.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741, (8-029) 7068002, з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа.*
- Прафесійныя музыкі. Вясёлы тамада. Т. (8-033) 6635375.*
- **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, ларок "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*
- Зробім металавырабы, гаражныя вароты, агароджы, плот і інш. Прапануем металапракат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Каханоўскі В.А. УНП 691502073. Т. (8-029) 8716226, (8-029) 9355568.*
- Насціланне падлогі ўсіх відаў, работа з вагонкай і іншыя аддзелачныя работы. ІП Петрашкевіч М.М. УНП 691401071. Т. (8-029) 1113493.*
- **ПРАКАТ УПРЫГОЖВАННЯЎ НА АЎТО**. Святочнае афармленне залаў шарамі і тканінамі. Крама "Фіеста", г.Маладзечна, ул.Валынца, 7. Т. МТС (8-029) 2280154, Вэлком (8-029) 1784037, 749602.*
- **ПУП "ЛАВТЭХ" АКАЗВАЕ НАСТУПНЫЯ ВІДЫ ПАСЛУГ: РАМОНТ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ І СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ТЭХНІКІ; ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ – МАГЧЫМЫ ВЫЕЗД НА АБ'ЕКТ ЗАКАЗЧЫКА; ПАСЛУГІ ПА МЕТАЛААПРАЦОЎЦЫ ЯК СА СВАЙГО МАТЭРЫЯЛУ, ТАК І З МАТЭРЫЯЛУ ЗАКАЗЧЫКА; РАМОНТ СТАРТЭРАЎ, ГЕНЕРАТАРАЎ, ТНВД СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ І СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ТЭХНІКІ. МІНІМАЛЬНЫЯ ТЭРМІНЫ, ВЫСОКІ ЎЗРОВЕНЬ ЯКАСЦІ.** УНП 690298046. Т/факс (8-01771) 56379, (8-029) 5725645, (8-029) 3725645.

- Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada@tut.by.*

**Музінструменты**

- Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

- Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*
- Манеты, значкі, папяровыя грашовыя знакі, фарфоравыя статуэткі. Т. (8-029) 7757719, Мінск.*
- **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Балон кіслародны, вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*
- Вагон-бытоўку ў добрым стане. Т. (8-029) 8706826.

**ІНШАЕ**

- **МАРСКІ КРУІЗ У ШВЕЦЫЮ.** Запрашаем правесці канікулы па-каралеўску! З 10 па 13 мая 2013 г.: Мінск-Рыга-Стакгольм-Мінск. Турагенцтва "ЮГ". ТАА "БЦСП". УНП 691403166. Т. 707033, (8-033) 3877755, (8-029) 3229522.
- Шукаю спадарожнікаў ў Хмяльніцкі, Беласток, Варшаву, Адэсу, Крым. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Будаўнік шукае работу. Вопыт: кладка, сайдынг, пластык, электрыка, ламінат, рамонт даху і г.д. Т. (8-029) 7583769.*

**ПАТРАБУЮЦЦА**

- Слесар МЗР. Т. 730521.*
- Сялянскай гаспадарцы "Вулей" (Вілейскі р-н) патрабуецца механізатар з вопытам работы ў сельгасвытворчасці, аплата высокая. Без прадастаўлення жылля. Пасведчанне аб дзярж.рэг. №503 ад 2002/07/23 г. УНП 600008888. Т. (8-029) 9864742.
- Электрамантажнікі, фрэзероўшчык на вытворчасць у Вілейку. ТАА "Энэргастымул". УНП 691171078. Т. у Мінску (8-017) 3462370.*

■ ЗДАРЭННЕ

## Загінуў з-за выбуху самагоннага апарата

**У сярэдзіне лютага супрацоўнікі ўпраўлення аховы парадку і прафілактыкі УУС Мінаблвыканкама разам з байцамі абласнога АМАПа знайшлі ў вёсцы Скавародкі самагонны апарат і больш за 6 тон брагі.**

Уладальнік апарата, 34-гадовы мясцовы жыхар, не толькі замаскіраваў сваю вытворчасць, але і ахоўваў яе.

Свой участак ён абгарадзіў высокай металічнай агароджай, да таго ж ахоўваў яго пры дапамозе двух сабак. Мужчына гнаў самагон для продажу.

Праз некалькі дзён апарат дэмантавалі і вывезлі на ўтылізацыю ў мясцовую сортавыпрабавальную станцыю. У адносінах да мужчыны быў складзены пратакол за вытворчасць самагону і захаванне самагоннага апарата. Ён атрымаў штраф у 15 базавых велічынь (1,5 мільёна рублёў).

Але жыхар вёскі не хацеў губляць крыніцу даходу. Пакуль ішоў разгляд справы, ён скраў асноўныя дэталі самагоннага апарата.

Калі ажыятаж вакол яго справы скончыўся, мужчына за пару дзён зрабіў новы апарат і аднавіў вытворчасць.

23 сакавіка адзін з жыхароў вёскі Скавародкі зайшоў у госці да таго самага самагоншчыка. Дома яго не было. Госць абышоў двор і пабачыў, што ў хлеўчыку выбітыя вокны і дзверы, частка сцяны разбураная, а побач ляжыць труп мужчыны. Загінуў не сам самагоншчык, а 40-гадовы жыхар Маладзечна. Ён працаваў на гаспадара па найме.

Маладзечанец у той дзень гнаў чарговую партыю самагону. Але ігнараванне правілаў пажарнай бяспекі прывяло да таго, што апарат выбухнуў. Мужчына ў выніку атрымаў смяротнае раненне.

Сам гаспадар апарата за паўторнае правапарушэнне атрымаў штраф у 25 базавых велічынь (2,5 мільёна рублёў).

**Паводле прэс-цэнтра УУС Мінаблвыканкама.**

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Латарэя для жаніхоў

**Праглядаю свой сямейны фотаальбом і знаходжу там фотаздымак сваёй зямлячкі, прыгожай дзяўчыны. На адвароце гэтага фотаздымка надпіс: "Сямёну ад Лены. 4/VI -71 г." Гэтаму фотаздымку сёлета будзе 42 гады. Лічыце, што амаль паўвека. Чаму ж ён у мяне захаваўся?**

Успамінаецца наступнае. У 1971 годзе я пазнаёміўся з сімпатычнай дзяўчынай у Вілейцы, на аўтастанцыі, ці можа ў аўтобусе маршруту Вілейка – Смаргонь. Дзяўчына тая была з вёскі Забалацце Войстамскага сельсавета. Я тады працаваў настаўнікам у Мінскім раёне і жыў у вёсцы Сукавічы. Лена туды прысылала мне пісьмы, а я ёй – у Забалацце. Дзе яна працавала – я не памятаю. Забылася ўжо і прозвішча, але гэта ўжо не мае значэнне, бо дзяўчаты прозвішчы мяняюць.

Ёй было гадоў 20, можа, крыху больш. Ведалі мы адзін аднаго толькі па лістах. І раптам я са сваім стрыечным братам Валодзем, які жыў у Касічах і працаваў трактарыстам, рашылі паехаць на веласіпедах на вечарынку ў Забалацце, якая мелася быць у клубе. Туды будзе ад Касічоў кіламетраў сем.

Магчыма, мяне запрасіла лістом Лена, бо мабільных тэлефонаў тады ж не было.

Прыехалі ямшчэ за сонцам, увечары. Знайшлі хату той Лены. Гэта быў хутар каля дарогі паміж Канстанполлем Рускасельскага сельсавета і Забалаццем Войстамскага сельсавета. Зайшлі. Дома была яе маці. Давялося пазнаёміцца. Потым пайшлі на танцы ў клуб. На той вечарынцы Лена была амаль каралевай. Паклоннікаў у яе хапала. А можа, адмыслова разыграла спектакль для мяне?! Я актыўнасці праяўляць не стаў, бо лічыў сябе амаль сталічным кавалерам. На той час я ўжо другі год вучыўся ў аспірантуры Акадэміі навук БССР, завочна на спецыяльнасці беларуская фальклорыстыка.

Вечарынка закончылася. Мы з Валодзем узялі веласіпеды, і раптам Валодзя пакінуў мяне з веласіпедамі, а сам пайшоў некага праводзіць. Я стаю і чакаю яго, як той дурань. А маладога і спрытнейшага Валодзі ўсё няма. Ды і на дождж збіраецца. А на двух веласіпедах ніяк не паедзеш – толькі ісці і цягнуць іх.

Нарэшце, ён прыходзіць. Хоць я і гукаў яго, але ён зрабіў выгляд, што не чуў. Аблаяў яго і кажу: "Стары кот ровары як сабака ахоўвае, а малады кот марцуе з дзеўкай летняй ночкай".

Больш пісаць Лене я не стаў, аднак ліст ад яе атрымаў, у якім яна прасіла ў мяне прабачэння і пыталася, чаму я так сябе вельмі сціпла паводзіў і не праяўляў ініцыятывы. Яна ж не вінавата, што яе запрашаюць на танцы іншыя. Мяне мала пераканала такое тлумачэнне, але ў наступным канверце прыслала яна мне некалькі каляровых кутасікаў розных колераў. І зрабіла вельмі цікавую прапанову. Напісала прыкладна так: "Заблыталася я са сваімі кавалерамі і вырашыла зрабіць так. Я загадала на адзін колер з кутасікаў. Хто ўгадае колер – той і будзе мой. Тады я зраблю ўсё і буду адносіцца сур'ёзна. Я пасылаю падобнае пісьмо ямшчэ на пару адрасоў".

Здзівіўся я, вясковая дзяўчына праводзіць конкурс кавалераў, дакладней, шляхам латарэі колераў выбірае сабе спадарожніка жыцця. Спачатку я разазлаваўся і хацеў усё выкінуць. Дурнота нейкая. А пасля ўстрымаўся і вырашыў зрабіць выпрымку ў часе, падумаць. І пасля коратка напісаў аб тым, які я колер выбраў. Адмовіцца ад сяброўства ніколі не позна.

Атрымліваю ліст, у якім даволі сціпла і культурна паведамляецца, што я не колер, на які яна зрабіла стаўку ("зачаравала"), не ўгадаў. Нават прабачэння папрасіла. А мне не было шкада яе. Калі выбрала па латарэі, зычу шчасця! А фотаздымак я захаваў, як памяць аб удзеле ў латарэі. Ну чым не сюжэт для апавядання? Заканчэнне для такога апавядання я мог бы прыдумаць сам (або са станоўчым, або з адмоўным фіналам), але я гэтага рабіць не стаў, бо палічыў, што яе ўчынак магчыма зыходзіў ад нейкай вышэйшай сілы.

Сёння мяне цікавіць, ці спраўдзілася тая латарэя з колерам? Ці выйшла яна замуж за пераможцу латарэі? Ці шчаслівая з ім? Ці, можа, ужо другі раз замужам? Калі Лена ўбачыць сябе і перачытае гэту нататку, дык хай паведаміць у рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" ў Маладзечне свой адрас і я тады вярну ёй яе фотаздымак.

А найлепш хай напіша, ці прынесла ёй шчасце латарэя для жаніхоў. Адказ, напэўна, патрэбны і таму, што столькі гадоў у маім фотаальбоме была яе фотакартка, якая са мной аб'ехала некалькі гарадоў.

**Сымон БАРЫС.**



Фота з архіва Сымона БАРЫСА.

Прашу адгукнуцца Лену з вёскі Забалацце Войстамскага сельсавета. Здымак 1971 года.

ГІСТОРЫЯ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №№6, 7, 9, 12.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

## Волагда

На вакзале ў Волагдзе я падышоў да аднаго мужчыны гадоў 35-38, назваў сябе і пачаў гутарку. Пан Марцінкевіч, так зваўся мужчына, быў на польска-нямецкім фронце ў верасні 1939 года. Вярнуўся дадому, недалёка ад Стоўбцаў, а за тое, што быў леснікам, саветы ў 1940 годзе вывезлі яго і яго сям'ю ў Архангельскую вобласць. Цяпер з іншымі спецперасялянцамі едзе, каб уступіць у польскую армію, якая ствараецца на тэрыторыі Узбекскай ССР. Запытаўся ў Марцінкевіча, ці магў б іны прыняць у сваю групу і яго.

І вось я сяджу ў грузавым вагоне, у якім у адной палове сабраліся палякі і беларусы, а ў другой – палякі і пара сем'яў з Заходняй Украіны – усяго 62 чалавекі, і едзем ва Узбекістан, да арміі.

Едучы ў такой цеснаце, вельмі цяжка падтрымліваць нейкую гігіену. Пайшлі вошы. Ноччу, калі мне здавалася, што людзі спалі, я распранаўся да пояса і "пёк" сваю вопратку на коміне, нагрэтым да чырвані. Людзі баяліся эпідэміі тыфу, які нас пазней апанаваў, але ўжо ва Узбекістане.

Даехалі мы ўрэшце да Орска на мяжы Казахстана. Там нас напаткаў буран, такая сняжышча, што беларуская мяцеліца выглядала як забаўка. Цягнік спыніўся, і начальства сказала, што будзем стаяць на станцыі два-тры дні, пакуль не супакоіцца бура.

Назаўтра, як толькі вецер трохі прыціх і можна было выйсці з вагона на двор, я ўгаварыў аднаго беларускага хлопца, Аркадзіка Адэта, нажабраваць яды. Узялі мы дзве торбачкі і нейкі цацялок і пайшлі па заснежанай дарозе прасіць ежы.

Наколькі савецкая сістэма была нічога не вартая, настолькі народ быў (праўда, не ўсе) прыветлівы. І хоць сам мала што меў, але часта дзяліўся тым, чым мог. У дзвюх кватэрах нас пакармілі гарачым супам. У наступных хатах (не ва ўсіх) далі па жмені мукі, круп, проса, аўсянкі, якія мы ссыпалі ў адну торбачку. У адной хаце дзве бабулькі выцягнулі скрынку з-пад лавы і на самым дне пад ручнікамі знайшлі два невялікія сухары і аддалі нам.

Калі вярнуліся ў вагон, бацькі Аркадзіка і яго старэйшыя брат і сястра ўзрадаваліся, убачыўшы нашы "дары". На працягу некалькіх дзён мы "балявалі", елі кашу і зацірку.

Урэшце цягнік рушыў далей, праз, калі добра памятаю, Троіцк да Акцюбінска.

## Сярэдняя Азія

У Акцюбінску мы затрымаліся. Прычынай было тое, што людзі з нашага вагона і некалькіх іншых, у якіх ехалі "бежанцы", захацелі, нарэшце, пайсці ў лазню. Усе так узрадаваліся, бо некалькі тыдняў ніхто з нас не меў ніякай магчымасці памыцца, хіба толькі абліць твар вадой з вядра.

Завялі нас у лазню, асобна мужчын, асобна жанчын. Шчаслівыя, якія мелі трохі мыла, маглі вымыцца добра. Я такога люксусу не меў, таму парыўся, як толькі мог трываць, а пасля гразь спалоскваў моцна гарачай вадой. У той час, калі мы мыліся, лахманы нашы ў клунках пражыліся ў "вошебойке".

Пасля лазні рушыў наш цягнік у напрамку Ташкента. З Ташкента паехалі ў Самарканд, адтуль – у Бухару.

## Тыф

Ад'ехаўшы з Бухары, я адчуў высокую тэмпературу і не мог устаць са сваіх нараў. Цягнік спыніўся на невялікай станцыі Хасан. Нехта з нашага вагона далажыў на станцыю, што ёсць моцна хворы хлопец. Відавочна, часты былі выпадкі захворванняў сярод "уцекачоў", бо на кожнай большай станцы быў прадстаўнік службы здароўя.

Нехта вывеў мяне з вагона і на ўзбекскім двухколавым возе завёз у бальніцу. Двухколку цягнуў асёл. У бальніцы не было вольных ложкаў, таму паклалі на сянніку ў калідоры. Я страціў прытомнасць.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**125 гадоў** назад нарадзіўся Антон Аўсянік (1888-1933), беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Кабылле Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Акцябрскай Вілейскага раёна).

***

**420 гадоў** з часу выдання (1593) у друкарні братоў Мамонічаў "Буквара", аднаго з першых у Беларусі.

***

Сёлета спаўняецца 240 гадоў з дня нараджэння Юстына Нарбута (1773–1845), гісторыка. Нарадзіўся каля Гродна. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. Збіраў пісьмовыя крыніцы па гісторыі старажытнай Беларусі і Літвы.

***

**5 красавіка.** 220 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Радзівіла (793–1856), дзяржаўнага дзеяча, мецэната, аднаго з першых беларускіх фальклларыстаў.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Мар'яна Дуксы (1943), беларускага паэта. Нарадзіўся ў вёсцы Каракулічы Мядзельскага раёна. Скончыў БДУ.

***

**6 красавіка.** 70 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Зданевіча (1943), беларускага спевака, педагога, заслужанага артыста Беларусі.

***

**120 гадоў** з дня нараджэння Язэпа Гаўрыліка (1893–1937), дзеяча рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Нарадзіўся ў в.Калодчына Вілейскага раёна. Скончыў Бабруйскую настаўніцкую семінарыю. Адзін з заснавальнікаў гімназіі імя Францішка Скарыны ў Радашкавічах (1922), удзельнічаў у рабоце Таварыства беларускай школы. У 1928 годзе – дэпутат у польскім сейме, адзін са стваральнікаў і старшыня рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай арганізацыі "Змаганне". У 1931 годзе быў прыгавораны да турэмнага зняволення, а ў 1932-м абмяняны як палітзняволены ў СССР. Стаў ахвярай рэпрэсій 1930-х гадоў.

***

**7 красавіка.** 90 гадоў назад (1923) створаная Дзяржаўная планавая камісія БССР.

***

**8 красавіка.** 110 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Скібнеўскага (1903 – 1978), рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**10 красавіка.** 75 гадоў з часу выхаду (1938) першага нумара газеты "Знамя юности" (да 1956 называлася "Сталинская молодежь".

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Нацпарк "Нарачанскі": прырода, якая стала каштоўнасцю

**МЯДЗЕЛ. Кожны можа аднавіць тут свае сілы, падзівіцца на рэдкія расліны і дрэвы ў адным з самых чароўных нацыянальных паркаў Беларусі. А зусім побач з месцам адпачынку – запаведныя зоны, у якія могуць трапляць толькі адзінкі.**

Сёння пачнём размову з намеснікам генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валерыем Люштыкам**.

**– Якія перад Нацыянальным паркам стаяць задачы?**

– У першую чаргу – захаванне прыроднага комплексу Нарачанскай групы азёр і генетычнага фонду расліннага і жывёльнага свету, тыповага для рэгіёна.

Акрамя таго, Нацыянальны парк абавязаны прымаць дзейсныя захады па ахове прыроды і рацыянальным прыродакарыстанні ў рэгіёне.

Яшчэ адна задача – правядзенне навуковых даследаванняў, звязаных з распрацоўкай і ўкараненнем у практыку навуковых метадаў захавання біялагічнай разнастайнасці. А таксама арганізацыя адпачынку і развіццё экалагічнай асветы сярод насельніцтва.

Адной з асноўных задач Нацыянальнага парку – захаванне ўнікальных прыродных комплексаў і экасістэм. Асаблівая ўвага надаецца захаванню прыродаахоўнага рэжыму, папярэджанню і недапушчэнню выпадкаў браканьерства.

Работа ўдасканальваецца: калі ў 2000 годзе супрацоўнікі аддзела аховы правялі 147 рэйдаў, то ў 2012 годзе – 1124. Выявілі 420 парушэнняў, у асноўным гэта невыкананне правілаў аматарскага рыбалоўства.

**– Тэрыторыя Нацыянальнага парку падзеленая на функцыянальныя зоны…**

– На падставе прапанoў навукоўцаў вылучылі чатыры функцыянальныя зоны: запаведная, рэгуляванага выкарыстання, рэкрэацыйная і гаспадарчая.

**– Многіх асабліва цікавіць запаведная зона. Раскажыце падрабязней, чаго там нельга рабіць.**

– Забараняецца наведванне запаведнай зоны грамадзянамі, за выключэннем службовых асоб. На яе тэрыторыі забараняюцца ўсе віды дзейнасці, акрамя правядзення навуковых даследаванняў і мерапрыемстваў па яе ахове.

У асобных выпадках дазваляюцца навукова абгрунтаваныя дзеянні, накіраваныя на захаванне ў натуральным стане прыродных комплексаў і аб'ектаў, на прадухіленне змянення іх стану з-за ўздзеяння чалавекам.

**– Якія цікавыя прыродныя аб'екты, расліны, фаўна знаходзяцца на тэрыторыі Нацпарку?**

– Па выніках даследаванняў навукоўцаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на тэрыторыі Нацыянальнага парку выяўлена больш за 1200 прадстаўнікоў расліннага свету і 314 – жывёльнага.

**Сярод іх 60 відаў фаўны (у тым ліку птушак), а таксама 104 віды прадстаўнікоў флоры, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.**

Некаторыя з ахоўных раслін сустракаюцца даволі рэдка ў нашай краіне, напрыклад, чарнакорань голы, курасьлеп лясны, Венерын чаравічок сапраўдны.

Ёсць мясціны на тэрыторыі Нацыянальнага парку, дзе некалькі відаў ахоўных раслін растуць адзін пры адным, напрыклад, так званы Парк рэдкіх раслін паблізу цэнтра курортнай зоны. Тут навукоўцамі-батанікамі на ўзбярэжжы возера Нарач знойдзена 10 відаў ахоўных раслін. Нашай установе парэкамендавалі абсталяваць тут экалагічную сцяжыну.

Пачынаючы з мая супрацоўнікі навуковага аддзела будуць гатовыя правесці экскурсійныя групы ў гэтым маляўнічым кутку.

Неўзабаве пасля стварэння парку ў лясным масіве пабудавалі вальер плошчай 8 гектараў. Сюды засялілі 21 еўрапейскага аленя, якіх прывезлі з Белавежскай пушчы. Перазімаваўшы, увесну іх выпусцілі і расялілі па лясных угоддзях.

У Нарачанскім краі аленям спадабалася: у апошнія гады рэгіструецца больш за 100 асобін, зімой на ўзлесках можна назіраць вялікія статкі.

**– Нарачанскі край – вядомы курорт…**

– Яго здаўна ўпадабалі турысты. Таму з 2000 года Нацыянальным паркам актыўна ўладкоўваюцца турыстычныя стаянкі ў маляўнічых месцах (як правіла, на берагах азёр).

Спачатку іх было 47, аднак маніторынг за станам прыродных комплексаў у месцах адпачынку турыстаў паказаў: каб пазбегнуць сур'ёзных парушэнняў на прыбярэжных тэрыторыях, неабходна карэктаваць размяшчэнне турстаянак.

Таму з часам іх колькасць значна зменшылі, і цяпер іх засталося 16. Яны размешчаны на ўзбярэжжах 10 азёр.

За мінулыя гады па нашай ацэнцы на турстаянках адпачыла каля 200 тысяч чалавек.

Яшчэ адным запатрабаваным відам пазнавальнага адпачынку з'яўляюцца экскурсіі. Супрацоўнікі турыстычнага аддзела распрацавалі больш за 20 экскурсійных маршрутаў як па тэрыторыі Нарачанскага краю, так і ў розныя куткі Беларусі.

Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца аўтобусна-пешаходныя. З мясцовых маршрутаў няма роўных паездцы ў прыродны комплекс "Блакітныя азёры" з прагулкай па экалагічнай сцяжыне.

Яшчэ адзін з цікавых аб'ектаў – дэндралагічны сад паблізу Мядзела. Тут з 2002 года сфарміравана калекцыя, у якой больш за 400 відаў раслін, якія не растуць у Беларусі.

На тэрыторыі дэндрасаду пабудаваны Музей лесу, пешаходныя сцежкі, масткі.

**Гэта першы артыкул з серыі матэрыялаў пра Нацыянальны парк "Нарачанскі". Мы будзем распавядаць пра дзейнасць прыродаахоўнай установы, пра праблемы, якія ёй удаецца ці пакуль не ўдаецца вырашыць. У наступнай публікацыі плануем расказаць пра разнастайныя магчымасці адпачынку ў Нацпарку "Нарачанскі".**

**Гутарыў Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**На возеры Мястра.**




**Карта Нацыянальнага парку "Нарачанскі".**

## Гісторыя стварэння Нацпарку "Нарачанскі"

Нацыянальны парк "Нарачанскі" быў створаны згодна з указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 ліпеня 1999 года №447. Прынялі рашэнне стварыць яго на тэрыторыі галоўным чынам Мядзельскага, а таксама Вілейскага, Пастаўскага, Смаргонскага раёнаў. Нацыянальны парк "Нарачанскі" плошчай 94 тысячы гектары. Стварылі і яго навукова-вытворчую базу – эксперыментальную лесапаляўнічую гаспадарку "Мядзел" плошчай 52,2 тысячы гектараў.

У распараджэнне Нацыянальнага парку былі перададзеныя ўсе лясы (больш за 65 тысяч га) Мядзельскага лясгаса, а таксама Пастаўскага (135 га) і Смаргонскага (182 га) лясгасаў. У пастаяннае карыстанне Нацыянальнаму парку "Нарачанскі" перадалі 43 вадаёмы.

КАЗКА

# Пра ляльку

Была адна лялька. Хто гэта лялька?

Гэта Нана.

Цішэй, цішэй, лялька Нана спіць.

Іванка ходзіць на пальчыках, мама ходзіць на пальчыках.

Лялька Нана спіць.

Ляжыць у карабачцы, карабачка – гэта яе пасцелька.

У пасцельцы Нана мае прасцінку, а таксама пярынку.

Іванка ідзе ціхаціхенька да лялькі Наны.

І шэпча: "Мамачка, мама, ці накрыта Нана?"

Нана накрыта па бародку. Толькі шчокі відаць, толькі носік відаць.

А вочкі заплюшчаны, не відаць. Шчочкі Наны, як ягадкі, а Іванка ведае, што вочкі яе, як дзве кветачкі, што растуць на лузе.

Іванка глядзіць на Нану.

Лялька Нана спіць!

Добрай ночы, Нана! Добрай ночы!

Калі праснешся, буду цябе забаўляць, буду табе спяваць, буду табе расказваць казку.

**З кнігі "Іванка" Францішка ТЭНЧЫКА. З чэшскай мовы пераклала Яўгенія ЧАПЛІНСКАЯ.**



Фота numama.ru.

**Размалюй карцінку. Якога колеру будзе неба, калі дзяўчынка і яе цацкі спяць?**

## А цяпер адкажы на пытанні

- Якое імя ў лялькі?
- Што робіць лялька Нана?
- Дзе лялька ляжыць?
- На чым спіць Нана?
- Ці відаць у Наны шчочкі?
- Пакажы, дзе ў цябе шчочкі, вочкі, носік? А дзе ў мамы?
- Што будзе рабіць Іванка, калі прачнецца Нана?
- Пакажы, як спала лялька.

## Напішы імя лялькі Іванкі

**Намалюй тое, што з'яўляецца ў небе, калі ўсе кладуцца спаць. Колькі іх на небе?**

# Знайдзі 10 адрозненняў і размалюй карцінкі





Фота pod-kopilka.ru.



**Вітаю цябе, мой сябар! Я – бобрык Рэгіян. Запрашаю цябе ў захапляльнае падарожжа па старонцы, якую падрыхтавалі спецыяльна для цябе. Тут ты знойдзеш і гульні, і размалёўкі, і цудоўныя казкі.**

**Многія гульні ў дзяцей не абыходзяцца без лічылак. Вось некаторыя з іх.**

## Лічылка

*Раз, два, тры, чатыры –*
*Зайчык вушы натапырыў.*
*Ідзе з лесу воўк, воўк*
*І зубамі: шчоўк, шчоўк.*
*Мы схаваемся ў кусты:*
*Зайка, я, і ты, і ты.*
*Ты ж, ваўчына, пачакай,*
*Як схаваемся - шукай.*

**(Васіль Вітка)**

*Раз, два, тры, чатыры,*
*Кошку грамаце вучылі:*
*Не чытаць, не пісаць,*
*А за мышкамі скакаць.*

*Пайшла курка у аптэку,*
*Закрычала: "Кукарэку!*
*Дайце пудры і духоў*
*На падманку петухоў".*

*Ішла кошка па раялі,*
*Наступіла на педалі*
*І запела:*
*– До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі,*
*Што украла – прынясі.*
*Я украла кілбасу,*
*Заўтра рана прынясу.*

**(dzietki.org)**

# Як вы гуляеце са сваімі дзеткамі?

**Падзяліцеся з чытачамі "РГ"!**

Часам, калі дзеткі бегаюць на кухні, пакуль мама гатуе вячэру, хочацца знайсці ім карысны занятак.

Цікавыя гульні можна зладзіць пры дапамозе магнітаў, якія вісяць на халадзільніку. Маленькім дзеткам можна паказаць тры-чатыры магніты, а калі дзіця заплюшчыць вочкі, схаваць адзін з іх. Няхай дзіця здагадаецца, які магніцік знік.

Пасля можна трэніраваць памяць: ставіць магніцікі ў пэўнай паслядоўнасці, запамінаць іх чарговасць, а пасля перастаўляць. Няхай дзіця па памяці адновіць ланцужок.

Тыя дзеткі, якія ўжо ведаюць літары і лічбы, могуць складаць словы і прыклады са спецыяльных магнітаў у форме літараў і лічбаў.

А ў якія карысныя гульні гуляюць вашы дзеткі? Падзяліцеся імі з намі! Вы атрымаеце магчымасць патрапіць у госці да бобрыка Рэгіяна ў "Дзіцячае акенца".

**Дасылайце свае гісторыі з фотаздымкамі дзетак на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, з пазнакай "Бобрыку Рэгіяну" альбо на электронны адрас: region-news@rh.by.**

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Спартзала адрывае ад камп’ютараў



фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСАВЫМ.

Момант гульні ў валейбол.

**МЯДЗЕЛ. Больш за год у райцэнтры працуе новы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр.**

У размове з карэспандэнтам “РГ” дырэктар установы **Міхаіл Чаркасаў** расказаў пра самыя папулярныя віды спорту ў мядзяльчан, падзяліўся задумамі на будучыню.

**– Што сабой уяўляе фізкультурна-аздараўленчы цэнтр у Мядзеле?**

– Гэта гульнявы і трэнажорны залы, міні-басейн, узнаўленчы цэнтр з саўнай, більярднымі сталамі.

**– І што з іх карыстаецца большай папулярнасцю?**

– Усе практычна аднолькава. Шмат займаюцца ў гульнявой зале. Культывуем такія віды спорту, як міні-футбол, валейбол, пачынаюць прыходзіць займацца баскетболам, вялікім тэнісам. У трэнажорнай зале, апроч уласна занятказ на трэнажорах, працуюць секцыя аэробікі, дзеці навучаюцца рукапашнаму бою. Вялікая цікавасць да більярда.

Калі казаць пра міні-басейн – самае цікавае, што прыходзяць не толькі дзеці. Некаторыя дарослыя проста прыходзяць паплаваць, хоць наш басейн усяго 6 на 8 метраў.

Сумесна з аддзелам адукацыі прыйшлі да высновы, што дзяцей трэба вучыць плаванню. Адразу займаліся вучні першай і другой мядзельскіх школ, удзельнікі летніх лагераў з раёна. Падлічылі, што каля 40 дзяцей навучыліся трымацца на вадзе. А цяпер штосуботы басейн наведваюць не толькі юныя мядзяльчане, прыязджаюць вучні з многіх школ.

Увогуле за мінулы год зарэгістравана больш за 23 тысячы наведванняў цэнтра. І ў гэтым годзе ідзе рост наведванняў ў параўнанні з мінулым.

Каб была пераемнасць у занятках спортам, з нядаўняга часу робім так: калі прыходзіць сям’я, ці адзін з бацькоў з дзіцем, то дзіця займаецца бясплатна.

Два разы на тыдзень праводзяцца заняткі з наведнікамі аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў тэрытарыяльнага цэнтра. Для іх гэта, вядома, бясплатна.

**– Працуе на базе цэнтра і валейбольная секцыя...**

– Мядзельскі раён славіцца валейбольнымі традыцыямі, але раней толькі настаўнікі ў школах рыхтавалі валейбалістаў.

З лістапада мінулага года пад кіраўніцтвам **Андрэя Русака** працуе валейбольная секцыя. Займацца ў ёй дзеці пачынаюць з шостага класа. І праз некалькі год будуць абараняць гонар раёна. Яшчэ было б добра арганізаваць навучанне дзяцей футболу – каб іх трэніравалі людзі, якія хочуць і могуць займацца з дзецьмі.

**– Нядаўна ўвялі новыя паслугі: дартс і вялікі тэніс. Як яны ўспрымаюцца?**

– Як усё новае, з цяжкасцю. Але ўжо людзі адчулі, што такое вялікі тэніс: ужо амаль кожную нядзелю прыходзяць, каб пагуляць.

**– Што яшчэ новага будзе ў цэнтры?**

– Ужо ў красавіку плануем распачаць заняткі стэп-аэробікай (від аэробікі, які праводзіцца са стэпамі – адмысловымі платформамі). Можна будзе пагуляць у бадмінтон. Для зручнасці людзей плануем устанавіць тэрмінал для аплаты пластыкавымі карткамі.

**– Якія прапановы паступалі ад людзей?**

– Такія прапановы, як увесці заняткі аэробікай, рукапашным боем, мы выканалі. Цяпер праводзім апытанне на тэму, ці трэба арганізоўваць пейнтбольны клуб. Мяркую, і адпачывальнікам ён будзе цікавы. Гэта ж лепей, каб яны грошы пакідалі не ў рэстаранах, а тут.

**– А як захапіць дзяцей спортам, калі цяпер іх больш цікавяць камп’ютары?**

Адразу гэта пытанне не вырашыць: вось адкрыўся цэнтр, і дзеці пабеглі ў яго. Але ў трэнажорны зал прыходзіць усё больш і больш дзяцей, бачу новыя твары.

Добра, што ў выхадныя не кучкуюцца за вуглом, а прыходзяць гуляць у футбол. Лічу, што эфект ад работы цэнтра нельга вымяраць грашыма ці той жа колькасцю наведнікаў. Вось калі праз некалькі год будзе больш здаровая моладзь, то гэта галоўнае.

**– Ці стала ў Мядзеле больш праводзіцца спартыўных мерапрыемстваў са з’яўленнем цэнтра?**

– Падышлі да таго, што кожныя выхадныя на базе цэнтра праходзяць спартыўныя мерапрыемствы: як сярод дарослых, так і сярод школьнікаў. Як мінімум, раённае, як максімум, міжабласное мерапрыемства. Можа, хто і з гледачоў, паназіраўшы, сам спортам зоймецца. Дарэчы, суседзі да нас прыязджаюць не толькі на спаборніцтвы, заказваюць зал пагуляць у футбол, баскетбол з Астраўца, Вілейкі.

**– Побач з цэнтрам будуецца гасцініца...**

– Вельмі на яе разлічваем. Трэба наладжваць кантакты з федэрацыямі гульнявых відаў спорту. Наша зала дазваляе праводзіць спаборніцтвы, арганізоўваць трэніровачны працэс. Мала такіх месцаў, каб разам былі гульнявая зала, трэнажорная, узнаўленчы цэнтр, а праз сто метраў – гасцініца.

**– На ваш погляд, чым для Мядзела стане фізкультурна-аздараўленчы цэнтр?**

– Хацелася, каб ён стаў не толькі месцам, дзе людзі паляпшаюць сваё здароўе, але і месцам, дзе збіраюцца блізкія па духу людзі. Вось як удзельнікі клуба “Геркулес” пад кіраўніцтвам **Юрыя Кабанава**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



НАВІНЫ

## Пачаўся чэмпіянат раёна па валейболе

**ВІЛЕЙКА. З 26 па 29 сакавіка прайшоў першы тур чэмпіянату раёна па валейболе.**

Прынёс ён такія вынікі: Вілейскае ЖКГ - завод “Фламетр” – 0:3, аддзел адукацыі - райаддзел па надзвычайных сітуацыях – 3:0, «Першы Беларускі» - Вілейская мэблевая фабрыка – 3:2, паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра “Імпульс” **Аляксандр Вайда**.

У чэмпіянаце ўдзельнічаюць шэсць камандаў. Пройдзе ён у два кругі. Першы завершыцца ў маі, а другі пачнецца восенню.

## Вучні гулялі ў шахматы

**ВІЛЕЙКА. З 26 па 28 сакавіка ў раённым цэнтры дадатковай адукацыі прайшлі спаборніцтвы па шахматах у рамках раённай спартакіяды вучняў.**

У іх прынялі ўдзел каля 50-і вучняў. У кожнай камандзе былі тры прадстаўнікі: два хлопцы і дзяўчына.

У камандным заліку першыя месцы ў сваіх падгрупах занялі сярэдняя школа №3 Вілейкі, Чурлёнскі сад-сярэдняя школа, Залескі сад-сярэдняя школа, Пагосцкі сад-базавая школа, паведаміла метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Людміла Арлоўская**.

У асабовым заліку сярод вучняў пачатковых класаў пераможцамі сталі **Вікторыя Палонская** і **Дзмітры Стражнікаў** (школа №3 Вілейкі).

## Змагаліся гіравікі

**ВІЛЕЙКА. 30 сакавіка ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры “Імпульс” адбыліся спаборніцтвы па гіравым спорце ў рамках круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў раёна.**

Спаборніцтвы праводзіліся па класічным двухбор’і ў дзвюх вагавых катэгорыях – да 100 кг і звыш 100 кг. Удзельнікі падымалі гіру вагой 24 кілаграмы.

У вагавай катэгорыі да 100 кг лепшым быў **Алег Гаўрышчук** з каманды райвыканкама, больш за 100 кг – **Аляксандр Вайда** (каманда Вілейскай ЖКГ). У камандным заліку перамаглі прадстаўнікі райвыканкама. На другім месцы – каманда аддзела адукацыі, на трэцім – Вілейскай ЖКГ.

## Спаборнічалі “цяжкія” вучні

**ВІЛЕЙКА. На базе сярэдняй школы № 3 29 сакавіка прайшла незвычайная спартландыя.**

У ёй прынялі ўдзел вучні ўстаноў адукацыі горада, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх, унутрышкольным кантролі, а таксама сацыяльныя педагогі і супрацоўнікі міліцыі.

– Удзельнічалі дзве каманды “Арлы” і “Камета”, капітанамі якіх сталі міліцыянеры, – паведаміла сацыяльны педагог раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Маргарыта Пяроўская**. – Каманды спаборнічалі ў дзесяці конкурсах. Перамагло сяброўства: спартландыя завяршылася з лікам 10:10.

**Аддзел інфармацыі.**



фота забяспечана Аляксандрам ВАЙДАМ.

Каманды райвыканкама, Вілейскай ЖКГ, аддзела адукацыі (злева направа) удзельнічалі ў спаборніцтве па гіравым спорце.

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### "Джэк - заваёўнік веліканаў" у 3D у Маладзечне

Вельмі шкада, што "Аперацыю "Арго" паказалі так мала. Выдатны фільм, годны сваёй узнагароды, апраўдвае чаканні. Хацела б яшчэ на яго схадзіць. "Оз" – такая сабе казачка, мілая і прыгожая. А вось "Джэк" па-сапраўднаму здзівіў. Чароўны фільм, перавысіў мае чаканні. ***Ажына.***

### Эксперымент "РГ": ці саступаюць мужчыны месца ў транспарце?

Я шмат гадоў езджу грамадскім транспартам на работу і дадому, але ніколі не бачыла, каб мужчыны саступалі месца жанчынам. А ўжо што тычыцца моладзі, хлопцаў, якія вучацца ў нейкіх каледжах, то тут наогул, як кажуць, пусты нумар. Яны стараюцца першымі заняць месцы, і іх зусім не цікавіць, хто там стаіць – дзіця, цяжарная жанчына ці састарэлая. І гэтаму іх не навучылі бацькі з маленства, бо культура паводзін закладваецца ў сям'і. ***Eva.***

Я вам яшчэ "прыкол" сучаснага грамадства распавяду! Вярталася мая маці з Мінска на маршрутцы. Месцаў не было, і кіроўца прапанаваў ёй ехаць стоячы. Яна не адмовілася, бо надта дужа стамілася. Чалавек сем ехала натуральна здаровых маладых мужчын. Дык ні адзін! НІ АДЗІН ёй месца не саступіў. Дык хіба гэта моцны пол?! Можа, цяпер будзем мужчынам месца саступаць? Ці яны ўспамінаюць пра жанчын толькі падчас жаночага свята? Дарэчы, 9 сакавіка ў кветкавай краме папрасілася ў мужчыны прапусціць мяне, бо спяшалася на аўтобус, а ён мне так і сказаў: "Восьмое марта вчера было!" ***Нехта ж напісаў!***

Як так, "у нас раўнапраўе" і г.д., дзе выгадна жанчынам, а як сумка цяжкая – саступай. Ну раз хочаце раўнапраўя – вось яно вам. ***Сяргей.***

На сваім прыкладзе магу сказаць, бо цяжарная, што мужчыны не саступаюць месца, робяць выгляд, што не заўважаюць або проста адварочваюцца тварам да акна, а вось жанчыны ці дзяўчаты могуць месца саступіць, але не ўсе... А яшчэ я раз ехала раніцай у кансультацыю ў час-пік, сядзела, але каля мяне стаяў малады мужчына і дыхаў такім перагарам, што мне самой давялося ўстаць і саступіць яму месца. ***Ганна.***

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

## Што вы звычайна купляеце на рынку?

**17%** Садавіну і агародніну

**11%:** Мяса ці рыбу

**5%:** Бакалею

**2%:** Сялянскія прадукты

**14%:** Адзенне

**14%:** Нічога

**2%:** Шукаю эксклюзіў на барахолцы

**31%:** Усё, што танней, чым у крамах

Усяго галасоў 35

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | 8 | | | | | |
| 2 | 4 | | | | 9 | | 7 | |
| 9 | | | | | 7 | 4 | | |
| 1 | | | | | | | 3 | |
| 4 | 5 | | | 3 | | | 6 | 1 |
| | 7 | | | | | | | 5 |
| | | 2 | 5 | | | | | 9 |
| | 1 | | 4 | | | | 8 | 6 |
| | | | | | 2 | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 3 | 5 | 8 | 4 | 9 | 1 | 6 | 2 |
| 2 | 4 | 1 | 3 | 5 | 6 | 9 | 7 | 8 |
| 6 | 8 | 9 | 1 | 2 | 7 | 4 | 5 | 3 |
| 1 | 2 | 8 | 7 | 9 | 5 | 6 | 3 | 4 |
| 4 | 5 | 6 | 2 | 3 | 8 | 7 | 9 | 1 |
| 9 | 7 | 3 | 6 | 1 | 4 | 8 | 2 | 5 |
| 8 | 9 | 2 | 5 | 7 | 1 | 3 | 4 | 6 |
| 5 | 1 | 7 | 4 | 6 | 3 | 2 | 8 | 9 |
| 3 | 6 | 4 | 9 | 8 | 2 | 5 | 1 | 7 |

**АГАРОДНІКУ**

# Вырошчваем расаду

**Цяпер клімат такі, што без расады не абысціся. Бо калі прыйдзе тое цяпло, каб можна было сеяць, то ўраджаю дачакаешся, а мо і не дачакаешся.**

Расліны, вырашчаныя праз расаду, нашмат лепш развіваюцца. Расадны метад дазваляе яшчэ эканоміць і насенне, якое дорага каштуе.

Перад высадкай расады ў грунт не забудзьцеся яе трохі загартаваць. Спачатку выносьце яе на адкрытае паветра на 2-4 гадзіны ў дзень, не больш. Да канца тыдня працягласць павялічце да 6-8 гадзін. Уважліва сачыце за тэмпературай паветра, бо яна не павінна быць ніжэй +8-10 градусаў.

Такая загартоўка зможа прадухіліць сонечныя апёкі ў раслін. Ды і самі сеянцы будуць больш устойлівыя да нізкіх тэмператур.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

| **Культура** | **Узрост расады, дні** | **З'яўленне ўсходаў пры аптымальнай тэмпературы,** дні | **Прыкладныя тэрміны высадкі раслін** |
|---|---|---|---|
| Кавун | 20-25 | 3-7 | У плёначныя цяпліцы, якія не абаграваюцца, і плёначныя ўкрыцці – 20 мая |
| Базілік | 45 | 5-7 | У плёначныя цяпліцы – 5 чэрвеня, адкрыты грунт – 10-15 чэрвеня |
| Баклажан | 50-70 | 7-10 | У плёначныя цяпліцы, якія не абаграваюцца, –10-20 мая |
| Дыня | 20-25 | 3-7 | У плёначныя цяпліцы, якія не абаграваюцца, і плёначныя ўкрыцці – 20 мая |
| Кабачок | 20-25 | 2-4 | У адкрыты грунт – 5 чэрвеня |
| Капуста брокалі | 35-50 | 3-4 | У адкрыты грунт – 15 мая |
| Капуста брусельская | 35-50 | 3-4 | У адкрыты грунт – 1-15 мая |
| Капуста кальрабі | 35-50 | 3-4 | У адкрыты грунт – 15 мая - 1 жніўня |
| Капуста пекінская | 30 | 3-4 | У адкрыты грунт – 15 мая - 1 ліпеня (устойлівыя да сцеблавання гібрыды) |
| Капуста белакачанная ранняя | 45-55 | 3-4 | У адкрыты грунт (пад няткань матэрыял) – з 20 красавіка па 1 мая, у залежнасці ад зоны |
| Капуста белакачанная сярэдняя | 35-45 | 3-4 | У адкрыты грунт – 1-15 чэрвеня |
| Капуста белакачанная позняя | 35-50 | 3-4 | У адкрыты грунт – 10-15 мая |
| Капуста квяцістая | 45-55 | 3-4 | У адкрыты грунт (пад нятканы матэрыял) – 1 мая, да 25 ліпеня – у адкрыты грунт |
| Кукуруза | 20 | 3-5 | У адкрыты грунт – 5 чэрвеня |
| Цыбуля-парэй | 50-70 | 5-7 | У адкрыты грунт – 5 мая |
| Цыбуля рэпчатая | 50-70 | 5-7 | У адкрыты грунт – 5 мая |
| Агурок | Закрыты грунт – 30-35, адкрыты – 20-25 | 2-4 | У плёначныя цяпліцы, якія не абаграваюцца, –20 мая, у адкрыты грунт – 5 чэрвеня |
| Перац | 50-60 | 7-10 | У плёначныя цяпліцы, якія не абаграваюцца, – 10-20 мая |
| Салата качанная | 25-35 | 3-5 | У плёначныя ўкрыцці – 15 красавіка, у адкрыты грунт – 15 мая |
| Сельдэрэй каранёвы | 60-70 | 7-10 | У адкрыты грунт – 1-15 мая |
| Тамат | Закрыты грунт – 60-70, адкрыты – 50-60 | 5-8 | У плёначныя цяпліцы – 1-15 мая, у адкрыты грунт – 5 чэрвеня |
| Гарбуз | 20-25 | 2-4 | У адкрыты грунт – 5 чэрвеня |
| Фізаліс агароднінны | 40-50 | 5-8 | У адкрыты грунт – 1 чэрвеня |

**РЭПЕРТУАРЫ**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгодніцкі экшн, фэнтэзі **"Джэк – заваёўнік веліканаў"** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)

5, 8, 10 красавіка – у 18.30
6, 11 красавіка – у 16.00, 21.00
7 красавіка – у 13.00, 21.00
9 красавіка – у 21.00
Кошт білета: 35 000 рублёў – дзённы, 40 000 – вячэрні сеанс.

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Оз: Вялікі і магутны"** (у фармаце 3D, ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)

6 красавіка – у 13.00
7 красавіка – у 18.00
Кошт білета: 25 000 рублёў – дзённы сеанс, 30 000 – вячэрні.

Фантастычная прыгода **"Таймлес. Рубінавая кніга"** (ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)

5, 10 красавіка – у 16.00, 21.00
6, 9, 11 красавіка – у 18.30
7 красавіка – у 15.30
8 красавіка – у 21.00

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Шукальнікі прыгодаў"** (Расія, 2012, для гледачоў, якім за 16 год)

5, 10, 11 красавіка – у 17.30, 19.30, 21.30
6 красавіка – у 15.30, 17.30, 19.30, 21.30
7 красавіка – у 15.00, 17.30, 19.30, 21.30
8 красавіка – у 21.30
9 красавіка – у 19.30, 21.30
Кошт білета: 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Не такі, як усе"** (камедыя ў адной дзеі) Аляксей Слапоўскі
5 красавіка – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Бывай, канферансье"** (спектакль-канцэрт) *Рыгор Горын*
6 красавіка – у 17.00

**"Старая зайчыха"** (меладрама) *Мікалай Каляда*
9 красавіка – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) Сцяпан Лабазёраў
11 красавіка – у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл.: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**Ад 7 па 10 красавіка – Міжнародная творчая акцыя "Тэатры свету – дзецям!"**

Тульскі дзяржаўны тэатр лялек (Расія). **"Стойкі алавяны салдацік".**
7, 8, 9 красавіка – у 12.00.

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**ГАРАСКОП (5-11 КРАСАВІКА) )**



**Авен.** Трымайце сябе ў руках, калі пачуеце крытыку ў свой адрас. Канструктыўную яе частку прыміце да ведама, астатняе вас не тычыцца.



**Цялец.** Ваша самаадчуванне будзе такім, якія эмоцыі вы будзеце адчуваць. Кіраваць настроем складана, але можна, калі памятаць, што ад гэтага залежыць ваша здароўе. Шукайце прычыны для ўсмешкі – і яны абавязкова знойдуцца.



**Блізняты.** Майце на ўвазе: ні ў якім разе нельга лячыць дэпрэсію паходамі па магазінах. Бо гэта не лепшым чынам адаб'ецца на фінансавым стане, ды ў такім настроі вы наўрад ці выберацe што-небудзь вартае.



**Рак.** Узнавіць душэўную раўнавагу добра дапамагаюць фізічныя практыкаванні і ванны з адварам заспакаяльных траў.



**Леў.** Добры час для таго, каб правесці нечаканы эксперымент са сваім гардэробам. Паспрабуйце скамбінаваць рэчы, якія вы ніколі раней не рашаліся надзець разам. Падбярыце да гэтага яркія аксесуары, і вынік здзівіць усіх навакольных.



**Дзева.** Наступае час перагляду каштоўнасцей. Пачніце з сябе – вы сябе зусім недаацэньвалі.

**Шалі.** Самае лепшае, што вы можаце зрабіць – гэта наладзіць адносіны з любімымі людзьмі. Яшчэ добра было б заняцца абуладкаваннем жылля – рамонт, упрыгожванне дома.



**Скарпіён.** Старайцеся весці сябе больш мякка і далікатна. Не прымайце паспешных рашэнняў, асабліва якія тычацца сямейнага жыцця.



**Стралец.** Калі не хочаце непажаданай агалоскі – будзьце асцярожныя.

**Казярог.** Прыміце да ведама ўсе затрымкі ў справах, але не спяшайцеся прымаць рашэнні – сам жа лёс утрымлівае вас ад памылак і несвоечасовых дзеянняў.



**Вадалей.** Фартуна зменлівая і непастаянная, але яна будзе шчодрая да вас. Усё, што вам цяпер трэба, – гэта паболей вітамінаў, свежага паветра і станоўчых эмоцый.



**Рыбы.** Сачыце за тым, каб ежа на вашым стале заўсёды была свежая, каб былі агародніна і фрукты. Халодная і цяжкая яда можа выклікаць недамаганні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +7 | | +3 / +4 | | +0 / +3 | | 0 / +5 | |
| | 733 | → 6 | 736 | ↓ 5 | 738 | ↘ 5 | 736 | → 5 |
| Вільня | +2 / +3 | | -1 / +2 | | -2 / +2 | | -2 / +2 | |
| | 743 | ↘ 5 | 747 | ↓ 5 | 748 | ↘ 5 | 745 | → 4 |

**6 красавіка, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +3 / +5 | 742 | ↓ 5 |
| Гродна | 0 / +2 | 746 | ↓ 5 |
| Мінск | +3 / +4 | 736 | ↓ 5 |
| Магілёў | +3 / +6 | 741 | ↓ 3 |
| Брэст | +2 / +5 | 743 | ↘ 4 |
| Гомель | +5 / +8 | 743 | ↓ 4 |

Тэмпература паветра. Воблачнасць, ападкі. Ціск (мм рт. сл.). Хуткасць ветра м/с. Усход, заход па Маладзечне.

Усход 6.30
Захад 19.59
Даўжыня дня 13.29

Усход 4.42
Захад 15.33
Квадра 4

## ПРЫКМЕТЫ

- 30 сакавіка – Аляксей, веснавы прысвятак, прымеркаваны да дня прападобнага Аляксея. "На Аляксея рыба аб лёд, санкі – аб плот" (хаваць да наступнай зімы).
- Красавік з вадой – май з травой.
- Красавік чорны ў полі, а ў бары – белы.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ці становіцца наш рэгіён брэндам самагонаварэння ў Беларусі? Якія наступствы чакаюць людзей, што злоўжываюць самапальнай гарэлкай? Што адбываецца з арганізмам чалавека, які часта п'е самагонку?**

## АНОНСЫ

### Адбудзецца акцыя па пасадцы дрэў, кустоў, кветак

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзіцячы цэнтр культуры "Расток" будзе ўдзячны кожнаму, хто прынясе пасадачны матэрыял для правядзення сямейнай дабрачыннай акцыі "Казачны сад", якая пройдзе 27 красавіка.

У акцыі могуць паўдзельнічаць усе ахвотныя. Трэба будзе садзіць дрэвы, кусты, кветкі.

Просім прыносіць з сабой інвентар.

Па ўсіх пытаннях звaніце на нумар: **76-42-46.**

### Пройдзе конкурс ансамбляў

**МАЛАДЗЕЧНА.** 5 красавіка ў 10 гадзін раніцы ў дзіцячай школе мастацтваў адбудзецца конкурс ансамбляў.

Больш за 40 удзельнікаў прыедуць з розных куткоў Беларусі. Будуць нават госці з Расіі.

Удзельнічаюць і малыя, і вялікія ансамблі (да 12 чалавек).

Можна будзе пачуць народныя струнныя інструменты, струнныя смычковыя інструменты, баян ды акардэон.

**Аддзел інфармацыі.**





## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Ігара МАРОЗА.

**І ў снег, і ў спякоту, і ў моцны дождж – кожны будны дзень спадар Уладзімір Карыцька на ровары імкнецца патрапіць у вілейскую друкарню своечасова.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці падабаюцца вам назвы маладзечанскіх вуліц?

**Віктар Дурко, начальнік кацельні:**

– Вялікі Гасцінец, Буйніцкага, Дудко. Ды шмат вуліц назвалі ў гонар каго-небудзь, мала якія называюцца нейтральна. Дрэнна, што засталося шмат савецкіх назваў. Напрыклад, Прытыцкага.

**Яўген Мейсак, пенсіянер:**

– Скарыны, Чарняхоўскага, Таміліна, Купалы, Коласа. Ёсць вуліцы ну амаль усіх вядомых беларусаў. Ёсць вуліцы і вядомых гістарычных дзеячаў, якія не ўзгадваліся ў савецкія часы. Напрыклад, Каліноўскага. Увогуле, мяне задавальняюць назвы вуліц.

**Кацярына Захарава, навучэнка:**

– Таміліна, Купалы, Маркава, Чарняхоўскага, Машэрава, ну і вялізная вуліца Вялікі Гасцінец. Я не мясцовая і маю не так многа часу з-за вучобы, каб шпацыраваць па горадзе. Шмат займаюся, таму не вельмі добра ведаю назвы вуліц.

**Іван Цыбульскі, студэнт:**

– Купалы, Багдановіча, Прытыцкага. Я сам не з горада, а з прыгарада, таму адразу назвы і не ўзгадаю.

**Сяргей Карыцька, навучэнец:**

– Скарыны, Коласа, Хмяльніцкага. Складана ўзгадаць. Увогуле ў Маладзечне добрыя назвы вуліц.

**Сцяпан Шкет, пенсіянер:**

– Вуліц шмат. Вось тут, напрыклад, Прытыцкага. І мне іх назвы падабаюцца.

**Святлана Цішэўская, студэнтка:**

– Броўкі, Валынца, Агінскага, Чэхава, Машэрава, Буйніцкага. Мне падабаюцца назвы маладзечанскіх вуліц, нават нягледзячы на тое, што цяпер пачалі пісаць беларускія назвы рускімі літарамі.

**Падрыхтаваў Ілля САНЬКО.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6300 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 14 (936) 29.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 276. Падпісана ў друк у 10.00 4.04.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.